ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№10 (43) кастрычнік 2014 год
CATHOLICNEWS.BY

# Уцякаючы ад вайны:

## Мінскі «Карытас» даў прытулак бежанцам з Украіны



Матэрыял чытайце на стар. 8



## Касцёл у Відзах адзначыў стагадовы юбілей

Матэрыял чытайце на стар. 4

## Адноўленыя фрэскі ў камайскім касцёле

Матэрыял чытайце на стар. 7



Пробашч парафіі ў Камаях кс. Яцэк Хутман.

# Што насамрэч сказаў Сінод біскупаў?



**III Надзвычайная сесія Сіноду біскупаў, прысвечаная пытанням сям'і і сужэнства, якую чакалі яшчэ з мінулага года, распачалася ў Ватыкане 5 кастрычніка 2014 г. Як паведаміла Беларуская служба Ватыканскага радыё, у Сінодзе прынялі ўдзел 191 сінадальны айцец. Святары прадстаўлялі пяць кантынентаў: 42 чалавекі – з Афрыкі, 38 – з Амерыкі, 29 – з Азіі, 78 – з Еўропы і 4 – з Акіяніі.**

**а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*

Яшчэ задоўга да пачатку Сіноду ў розных сродках масавай інфармацыі пашырыліся думкі і спадзяванні, якія аўтары матэрыялаў хацелі б бачыць як вынік працы біскупаў. Сярод такіх чаканняў можна назваць больш ліберальнае стаўленне да дашлюбных адносін, дазвол на разводы і змену стаўлення Касцёла да гомасексуальных сувязяў.

### "Сенсацыйны" дакумент

13 кастрычніка была абнародавана "Relatio post disceptationem" (Паслядэбатная справаздача). Дакумент заключае галоўныя думкі, выказаныя сінадальнымі айцамі на працягу першага этапу працы Сіноду. Адразу пасля публікацыі справаздачы міжнародныя інфармацыйныя агенствы, а за імі і іншыя рэсурсы распаўсюдзілі навіны пад загалоўкамі кшталту "Каталіцкі Касцёл змяняе стаўленне да геяў", ігнаруючы іншыя, больш важныя моманты, адзначаныя ў дадзеным дакуменце.

У тэксце справаздачы сапраўды гаворыцца, што гомасексуальныя асобы "са сваімі "дарамі і талентамі" могуць шмат прапанаваць хрысціянскай супольнасці. Касцёл з'яўляецца для іх "домам". Але ў гэтых словах няма нічога новага для вучэння Каталіцкага Касцёла. У Катэхізісе чытаем: "Да іх трэба ставіцца з павагай, спачуваннем і тактоўнасцю. Трэба пазбягаць у адносінах да іх усякіх праяваў несправядлівай дыскрымінацыі. Гэтыя людзі пакліканыя выканаць волю Божую ў сваім жыцці і, калі яны хрысціяне, злучыць з Крыжовай Ахвярай Збаўцы тыя цяжкасці, з якімі яны сутыкаюцца з прычыны свайго стану" (ККК 2358).

### Што сапраўды важнае

Пры гэтым тэма сексменшасцяў абсалютна не дамінуе ў абмеркаваннях на Сінодзе. Нашмат больш увагі прысвячаецца пытанням традыцыйнай сям'і і праблемам, з якімі яна сутыкаецца ў сучасным свеце. Удзельнікі Сіноду называюць сям'ю "вырашальнай і каштоўнай" рэальнасцю ў атмасферы распаўсюджання

***Удзельнікі Сіноду прадстаўлялі пяць кантынентаў: 42 чалавекі – з Афрыкі, 38 – з Амерыкі, 29 – з Азіі, 78 – з Еўропы і 4 – з Акіяніі***

індывідуалізму, адзіноты, нарцысізму, "жаху" адсутнасці працоўных месцаў, войнаў, тэрарызму і міграцыі. У справаздачы падкрэсліваецца неабходнасць "духоўнай праніклівасці" і адказнасці Касцёла ў адносінах да партнёрскіх і грамадзянскіх саюзаў, да разведзеных асобаў, якія заключылі новыя саюзы. Адзначаецца, што ў падыходзе да тых, хто ўдзельнічае ў жыцці супольнасці няпоўным або недасканалым чынам, трэба заўважаць станоўчыя рысы, а не абмежаванні і недахопы.

Адначасова нам трэба правільна разумець значэнне гэтага дакумента. Падчас адкрыцця Сіноду Папа Францішак звярнуўся да ўсіх удзельнікаў: "Няхай ніхто не кажа: "Гэтага нельга казаць; пра мяне падумаюць тое ці іншае". Неабходна казаць усё, што адчуваеце ў поўнай свабодзе". Менавіта ў такой свабодзе меркаванняў і праходзіць праца ўдзельнікаў. Дадзеная ж справаздача ўяўляе сабой своеасаблівы тэзісны канспект выступленняў, які падлягае далейшаму абмеркаванню і дапрацоўцы.

Як паведамляе Беларуская служба Ватыканскага радыё, паслядэбатная справаздача добра адлюстравала меркаванні, што прагучалі ў сінадальнай зале. У дакуменце ясна выказана галоўная думка асамблеі пра любоў Касцёла да сям'і і яго здольнасць быць побач з чалавекам у любы момант жыцця. Падчас абмеркавання справаздачы сінадальныя айцы звярнулі ўвагу, што, гаворачы пра сужэнствы, якія перажываюць праблемы, варта не забывацца і часцей казаць пра сем'і, што застаюцца вернымі вучэнню Евангелля, і дзякаваць ім за іх сведчанне. Сінод павінен з большай дакладнасцю і яснасцю казаць аб сужэнстве непарыўным, шчаслівым, верным назаўсёды, прысутным у грамадскім жыцці.

Іншыя прапановы датычылі неабходнасці надання большай увагі пытанню жанчын, іх бяспекі і ролі ў перадачы жыцця і веры. Было таксама заўважана, што слова "грэх" у справаздачы амаль адсутнічае, што нараджае рызыку падпарадкавання менталітэту гэтага свету. Неабходная ўважлівасць у рыторыцы адносна гомасексуальных асобаў, каб не стварыць уражанне станоўчай ацэнкі гэтай арыентацыі з боку Касцёла, – гаварылася ў сінадальнай зале. Такую ж асцярожнасць варта захаваць у адносінах да сітуацыі людзей, якія жывуць у нефармальных саюзах.

Пазней спецыяльная камісія Сіноду біскупаў займалася падрыхтоўкай і рэдагаваннем выніковых дакументаў асамблеі, у тым ліку кампендыума двухтыднёвай працы. Абмеркаванне гэтых дакументаў адбылося 18 кастрычніка. Менавіта ў названых выніковых дакументах і варта шукаць аўтарытэтную афіцыйную пазіцыю Касцёла адносна ўсіх пытанняў, якія абмяркоўваліся на працягу двух апошніх тыдняў у Ватыкане.



## Архиепископ Станкевич: однополые связи не являются браком по определению

**Архиепископ Риги Збигнев Станкевич подчеркнул, что церковь выступает против пропаганды гомосексуализма, но не самих гомосексуалистов. «Нам надо объяснять, что мы не против гомосексуалистов. Мы их поддерживаем. Мы призваны защищать каждого человека. Но мы призваны также разоблачать ложь, отсутствие правды в подобных отношениях», – пояснил он.**

По словам Збигнева Станкевича, развитые западные страны используют свою власть и ресурсы, чтобы навязывать всему миру противоестественное представление о семье. «Мы подвергаемся давлению. Они хотят это популяризировать и навязывать остальным», – отметил архиепископ. Отвечая на вопрос, подвергалась ли Латвия такому давлению, как страны Африки, которым Запад угрожал перекрыть инвестиции за «антигейские» законы, о. Станкевич отметил, что в Латвии нет законов, ограничивающих гомосексуальный образ жизни.

Архиепископ также рассказал, что в Латвии проводились гей-парады, которые, правда, не были массовыми. В основном в них участвовали иностранцы. «Я пригласил всех христиан и верующих в кафедральный собор на молитву за моральные ценности и семьи в Латвии. В храм пришло больше людей, чем на шествие», – сказал он.

По мнению архиепископа, западный подход к гомосексуализму неприемлем для латвийского общества. «В Латвии гомосексуалистов не дискриминируют. У них есть такие же права, как и у других жителей Латвии. Особые права не требуются, так как это были бы, скорее, привилегии», – отметил он. Архиепископ также считает, что легализация однополых браков лишь усугубит «внутренние нарушения гомосексуальных людей».

«Гомосексуальные отношения противоестественны. Христиане считают их грехом. Мы не можем поддержать нечто такое... Верующие слишком политкорректны, они помалкивают, а не провозглашают истину. Наша задача – распространять христианское учение в современном мире. Мы призваны не стыдиться этого учения. Даже если оно противоречит политкорректности. Даже если его не поддерживает большинство. Гомосексуальные отношения разрушают идентичность человечества – не только христианскую, но и идентичность человечества в целом, идентичность мужчины и женщины», – заметил Збигнев Станкевич.

Следует добавить, что эстонский парламент принял «Закон о сожительстве», который позволит несостоящим в браке парам (как разнополым, так и однополым) регистрировать сожительство и регулировать отношения друг с другом и с третьими лицами.

За принятие закона проголосовали 40 депутатов, против были 38. Закон вступит в силу 1 января 2016 года.

*baznica.info*

### Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Ад шчырага сэрца віншуем нашага **ксяндза Лешака Вітвіцкага** з Днём нараджэння, які ён адзначае 22 кастрычніка. Жадаем яму шмат Божых ласкаў, здароўя. Яшчэ жадаем, каб вера, надзея і любоў ніколі не згасалі ў сэрцы, а кожны дзень жыцця быў напоўнены шчасцем і радасцю. Няхай Пан Бог асвеціць яго шлях, а Маці Божая заўсёды атуляе сваёй апекай!*

*Няхай заўсёды Бог аберагае*
*Ад зла, хваробы і журбы,*
*І ласку шчодра пасылае*
*Сёння, заўтра і заўжды.*



***Вернікі капліцы святога Юрыя, в. Быстрымаўцы (Браслаўскі раён)***



# Яшчэ адзін экзарцыст у Віцебскай дыяцэзіі

**Біскуп Алег Буткевіч 14 кастрычніка прызначыў кс. Паўла Кнурэка з парафіі св. Апостала Андрэя ў Лынтупах экзарцыстам.**

Гэта ўжо другі святар у дыяцэзіі, якому іерарх даручыў паслугу служэння малітвай-экзарцызмам. Першы экзарцыст у Віцебскай дыяцэзіі быў прызначаны 11 сакавіка, і ім стаў а. Аляксандр Жарнасек MIC.

Кс. Павел Кнурэк добра вядомы нашым чытачам як вядоўца рубрыкі "Разважаем над Божым словам". Мы шчыра жадаем духоўнай моцы ксяндзу Паўлу і заступніцтва арханёла Міхала ў гэтай новай для яго паслузе.

* * *

Экзарцызм – гэта малітоўны зварот да Бога з просьбай вызваліць апантаную асобу ад уплыву злога духа. Экзарцысты выганяюць д'ябла пры дапамозе малітвы сілаю Хрыста. Адрозніваюць экзарцызмы традыцыйны і просты. Традыцыйны экзарцызм праводзяць у выпадку апантанасці, і ім кіруе біскуп або вызначаны біскупам святар. Правядзенне гэтага абраду патрабуе папярэдняга выканання шэрагу ўмоваў: экзарцыст не можа знаходзіцца ў стане цяжкага граху, павінен шмат маліцца і пасціць. Перад пачаткам абраду выгнання д'ябла асоба, якая лічыцца апантанай, праходзіць спецыяльную праверку. Гаворка ідзе пра сімуляцыі, прывіды або псіхічныя хваробы. З іншага боку, псіхолагі вельмі часта сапраўдную апантанасць ацэньваюць як "псіхічную хваробу", адбіраючы такім чынам у апантаных адзіную магчымасць паратунку, каторую дае экзарцызм.

**Кантакт для зацікаўленых у сустрэчы са святаром-экзарцыстам:**
вул. Красільнікава, 1
211870 в. Лынтупы
Пастаўскі р-н
Віцебская вобл.
Тэл.: +375292991568.

Псуя

# Успаміны з пілігрымкі

**Хачу сардэчна падзякаваць усім, хто арганізаваў пілігрымку па касцёлах Мінска-Магілёўскай і Гродзенскай дыяцэзій, якая адбылася 27 верасня 2014 года. Дзякую ксяндзам Віктару Місевічу і Андрэю Куліку, якія пілігрымавалі разам з намі.**

З той пары мінула ўжо больш за два тыдні, але ўражанні не перастаюць хваляваць. Збылася мая даўняя мара: пазнаёміцца з духоўнай спадчынай Беларусі. Яшчэ да гэтай пілігрымкі, у час якой мы наведалі 8 касцёлаў, я на працягу жыцця малілася ў 25 касцёлах Беларусі. Паўторна ў гэтай пілігрымцы наведала толькі адзін касцёл, у Нарачы.

Я не маю здароўя і сродкаў, каб пабываць у Рыме, Ватыкане, Ерусаліме, на Сінаі. Шкада. Але Бог ёсць усюды: і ў той вёсцы, дзе я жыву, і ў краіне, імя якой Беларусь, і ва ўсім свеце. Галоўнае, што Ён ёсць у душы, у думках, у сэрцы.

Гэтая пілігрымка яшчэ больш умацавала маю веру ў Бога, яшчэ больш цяпер разумею, што жыццё з Богам вельмі прыгожае, шчырае, бязмежнае, цудоўнае. Я гэта не толькі ўбачыла, але і адчула.

Захапляюся тымі людзьмі, працаю рук якіх створаны гэтыя цудоўныя святыні! Хочацца жыць, працаваць на карысць нашчадкам, ствараць нешта прыгожае, патрэбнае, радавацца...

І вось новая радасная падзея. 13 кастрычніка гэтага года ў маёй вёсцы Псуя, што на Глыбоччыне, каталіцкія і праваслаўныя вернікі адзначалі 10-годдзе з дня ўстаноўкі прыдарожных крыжоў, каталіцкага і праваслаўнага.

10 гадоў таму назад мы не ведалі, што гэта за дата. Так атрымалася, што 13 кастрычніка ў людзей знайшоўся час і магчымасць, каб устанавіць крыжы. І толькі пазней стала вядома, што гэта дата незвычайная: 13 кастрычніка 1917 года Маці Божая аб'явілася ў Фаціме апошні раз.

На працягу года мы шчыравалі, каб створанае намі святое месца было прыгожым, прывабным: ставілі агароджу, рабілі клумбы, садзілі кветкі і маліліся. Падчас гэтых клопатаў нарадзілася думка, каб паміж крыжамі, якія стаяць побач, паставіць фігуру Маці Божай. Дзякуючы ксяндзу Юрыю Зыгмунтоўскаму, які на той час быў пробашчам празароцкага касцёла, наша мара здзейснілася. Ксёндз прывёз нам з Польшчы фігуру Маці Божай Фацімскай.

Тут, без сумневу, ёсць сувязь, гэта значыць, што год таму назад ужо было падрыхтавана месца для Маці Божай. Гэта Пан Езус яго падрыхтаваў і чакаў Сваю Маці і нашу Маці. Зноў жа наперад мы не ведалі, што гэта будзе Маці Божая Фацімская. І яшчэ адна цікавая, на мой погляд, рэч: 14 кастрычніка праваслаўныя вернікі святкуюць Пакроў Прасвятой Багародзіцы, адзначаецца Дзень Маці. Сувязь несумненная!

13 кастрычніка гэтага года каля крыжоў ксёндз Дзмітрый, пробашч празароцкага касцёла, цэлебраваў святую Імшу. Шмат сабралася людзей рознага ўзросту, і нельга было адрозніць, дзе тут каталікі, дзе праваслаўныя.

Я глядзела на ўсіх людзей і з вялікай радасцю думала, што збываецца тое, пра што сказаў Езус: "Каб усе былі адно"!

*Анеля Вікенцеўна Ананька,*
*жыхарка вёскі Псуя*



**Святары Андрэй Кулік і Віктар Місевіч адпраўляюць святую Імшу ў Гудагаі.** *Фота Марыны Сінкевіч*

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення Св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю Св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю Св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на Св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 000 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую Св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:
*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211800*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе Св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на Св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

### Інтэнцыя Св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя Св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена Св. Імша) | |

# Касцёл у Відзах адзначыў стагадовы юбілей

**Ва ўрачыстасцях, якія адбыліся ў нядзелю, 5 кастрычніка, прыняў удзел біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. На юбілей прыбылі таксама ксёндз Казімір Гваздовіч, які працаваў тут адразу пасля аднаўлення касцёла, святары з іншых парафій, а таксама прадстаўнікі мясцовай улады.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*



Храм быў цалкам запоўнены людзьмі. Каб паўдзельнічаць у святкаванні юбілею, у касцёле сабраліся не толькі вернікі з Відзаўскай парафіі, але і госці з іншых месцаў. Прычым не толькі з Беларусі, але і з суседніх краін: Польшчы, Літвы, Латвіі і Расіі.

На пачатку Святой Імшы быў прачытаны невялікі даклад па гісторыі касцёла ў Відзах. Пабудаваны сто гадоў таму гэты храм і цяпер з'яўляецца адным з самых высокіх у Беларусі – яго шпілі ўзносяцца амаль на шэсць дзясяткаў метраў. Але не толькі вышынёй сваіх вежаў знакаміты касцёл, але і сваёй прыгажосцю. Збудаваная ў неагатычным стылі святыня – адна з найбольш прыгожых у Беларусі. Па прачытанні даклада былі асвечаныя абразы Езуса Міласэрнага і святога Яна Паўла II.

## Касцёл на лініі агню

А вось гісторыя касцёла ў Відзах была далёка не простая. Будаўніцтва храма распачалося ў 1904 годзе і закончылася ў 1914-ым, калі ў Еўропе выбухнула Першая сусветная вайна. Гэта вайна не абмінула і святыню ў Відзах. Падчас адступлення ў касцёле замацаваліся немцы, якія выкарысталі храм у якасці крэпасці. Па святыні быў адкрыты агонь цяжкай артылерыі, немцаў выбілі, а храм моцна пацярпеў. Рамонт яго быў закончаны толькі ў 1926 годзе. Як напамін аб вайне рамонтнікі ўмуравалі ў сцены касцёла снарады, што былі знойдзеныя ў святыні. Іх можна пабачыць і цяпер.

Але зноў храм нядоўга праслужыў людзям – распачалася Другая сусветная вайна. Падчас наступлення савецкіх войск у 1944 годзе касцёл зноў моцна пацярпеў.

Новая ўлада аднаўляць святыню не збіралася, больш за тое, яна не дала магчымасці зрабіць гэтага і самім вернікам. У 1950 годзе касцёл быў забраны ў католікаў і аддадзены ў грамадскае карыстанне. Спачатку тут зрабілі склад ільну, а потым – спартыўную залу мясцовай вучэльні. Праз колькі часу велічны будынак застаўся зусім без гаспадара і стаў прыходзіць у заняпад. Знішчылі алтар, павыдзіралі вокны, была спалена падлога, згніла столь...



*Як напамін аб вайне рамонтнікі ўмуравалі ў сцены касцёла снарады, што былі знойдзеныя ў святыні.*

## Першая Камунія кардынала

Людзі звярталіся ў самыя высокія інстанцыі, каб вярнуць сабе святыню. Нарэшце ў 1989 годзе касцёл быў вернуты парафіянам. Але ў якім стане!

Пачалася цяжкая праца па яго аднаўленні. У 1994 годзе, праз восем дзясяткаў гадоў пасля пабудовы, храм быў паўторна асвечаны арцыбіскупам Казімірам Свёнткам. Цікавы факт: у дзяцінстве ў гэтым касцёле будучы кардынал прыняў Першую Камунію.

## Як змяніць свет? Рэцэпт ад біскупа

У сваім слове да вернікаў біскуп Алег Буткевіч адзначыў, што хаця храму споўнілася сто гадоў, гісторыя жывога касцёла на гэтай зямлі нашмат старэйшая: першы драўляны касцёл пабудаваны тут быў яшчэ ў XV стагоддзі.

Каб не страціць веру, якая нам дасталася ад продкаў, іерарх заклікаў вернікаў змяніць сваё жыццё, сваё стаўленне да гэтай веры: "Мы павінны спрабаваць змяніць сваё жыццё. Мы не зменім свет. Хацелася б асабліва людзям маладым напачатку перамяніць гэты свет. Пазней чалавек разумее, што можа паспрабаваць змяніць бліжэйшае асяроддзе. І, нарэшце, людская мудрасць кажа яму, што ў нашай уладзе паспрабаваць змяніць нас саміх. І ў гэтым моманце адбываецца цікавая рэч: каля я змяняюся сам, перамяняю сваё сэрца, мяняецца свет вакол мяне".

Кіраўнік дыяцэзіі выказаў пажаданне, "каб гэтыя муры, якія вытрымалі тую сотню год, былі і надалей поўныя людскіх сэрцаў, каб гэтая святыня, якая нагадвае чалавеку, што ўзносіць свае рукі да Бога, была поўная людской шчырай малітвы..."

Пасля гэтага віцебскі ардынарый удзяліў сакрамант канфірмацыі сотні вернікам. Гэта лічба была невыпадковай, бо менавіта столькі гадоў споўнілася касцёлу. На заканчэнне Святой Імшы быў асвечаны памятны камень у гонар кардынала Казіміра Свёнтка, стагадовы юбілей якога таксама адзначаецца ў гэтым годзе. Бо менавіта ён дваццаць гадоў таму паўторна асвяціў аднаўлены храм.

Закончыліся ўрачыстасці канцэртам народнага камернага хору з Глыбокага пад кіраўніцтвам Дар'і Волкавай. Хор выканаў шэраг твораў на духоўныя тэмы, якія вельмі спадабаліся слухачам, у тым ліку і біскупу Алегу.

Напрыканцы хацелася б выказаць пажаданне, каб наступныя стагоддзі ў гісторыі відзаўскага касцёла не паўтарылі трагедыю першых дзясяткаў гадоў яго існавання, каб храм, як сказаў кіраўнік Віцебскай дыяцэзіі, заўсёды быў поўны людскіх сэрцаў, каб тут заўсёды ўзносілася самая шчырая малітва да Бога.



# Успамін святога Міхала Арханёла адзначылі ў Дунілавічах

**У Дунілавічах 28 верасня сустракалі біскупа Віцебскай дыяцэзіі Алега Буткевіча. Візіт Пастыра быў прымеркаваны да Дня святога Міхала, які з'яўляецца апекуном мясцовай парафіі.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*



Акрамя кіраўніка дыяцэзіі біскупа Алега Буткевіча, ва ўрачыстасці ўзялі ўдзел айцец Сяргей Мацюшонак, афіцыял касцельнага суда Віцебскай дыяцэзіі, ксёндз Віктар Місевіч, кс. Яўген Міхайлаў, ну і, вядома ж, пробашч парафіі ў Дунілавічах ксёндз Павел Самсонаў.

Парафіяне ўрачыста сустрэлі кіраўніка дыяцэзіі каля ўвахода ў святыню. Пасля прывітальных словаў і кароткай малітвы адбыўся ўрачысты ўваход біскупа разам са святарамі ў касцёл.

Вернікі, якіх на свяце было шмат, радасна віталі свайго Пастыра. Наогул, у храме панавала святочная, узнёслая атмасфера, якая адчувалася як у знешнім убранстве святыні і саміх вернікаў, так і ў той шчырасці і адкрытасці, якая чыталася на тварах вернікаў.

У сваім слове да прысутных віцебскі ардынарый звярнуў увагу на тое, для чаго ў сучасным свеце чалавеку патрэбна вера. Ён нагадаў вернікам, як перакладаецца са старагабрэйскай мовы імя Арханёла Міхала і якое значэнне гэта мае для нас, хрысціян.

Само імя Мі-ха-эль – той, хто як Бог. Гэта адказ на тыя шматлікія пытанні, якія ўзнікаюць у нас у жыцці, пытанні, дзе шукаць паратунку, як вызваліць сваё дзіця, сына, мужа ад бяды алкагалізму, як ратаваць сям'ю, у якой пачынаюць узнікаць нейкія непаразуменні, пачынаюць псавацца адносіны, як дапамагчы дзецям, што засталіся без бацькоўскай апекі. Адказ на гэтыя пытанні знаходзім у імені нашага сённяшняга апекуна – хто як Бог.

Далей біскуп Алег паразважаў над тым, што дае сучаснаму чалавеку вера, для чаго ён прыходзіць у касцёл. У наш час шмат якія матэрыяльныя пытанні людзі ўжо вырашаюць самі, дык чаму ж тады яны ідуць у святыню?

Адказ на гэта пытанне сведчыць аб глыбіні маёй веры. Ці я прыходжу ў касцёл шукаць Бога дзеля мяне самога, ці Ён з'яўляецца ў маім жыцці каштоўнасцю самой у сабе, нават тады, калі той Бог, як мне падаецца, не чуе маёй малітвы?..

А чаго мы просім у сваіх малітвах, з чым мы прыходзім у сваёй большасці да алтара? Ці не большасць нашых просьбаў – гэта матэрыяльныя праблемы? А Езус нам кажа, што ў першую чаргу шукайце Божага Валадарства. Бо шмат якія праблемы матэрыяльныя мы можам вырашыць і самі праз сваю працу.

Як прыклад біскуп прывёў жыццё святога Францішка, чыю магілу нядаўна наведаў. Шмат у чым да яго падобны цяперашні Папа, які ўзяў сабе гэтае імя. Сваю веру Папа Францішак паказвае якраз не на словах, а на справе. І гэта можа быць прыкладам для нас.

Падчас Імшы іерарх удзяліў сакрамант Канфірмацыі, або хрысціянскай сталасці вернікам з мясцовай парафіі, якія адпаведным чынам да гэтага падрыхтаваліся.

Адметнасцю свята стала тое, што ў храме было шмат мужчын, што не прамінуў заўважыць кіраўнік Віцебскай дыяцэзіі. "Шмат хто лічыць, што маліцца – гэта жаночая справа, – адзначыў біскуп Алег, – але гэта не так. У першую чаргу, гэта справа мужчынская, і мужчынам не трэба саромецца хадзіць у касцёл, наогул, іх месца тут у першых радах. Бо мужчына – гэта галава сям'і, і ад яго прыкладу залежыць вера ў гэтай сям'і".

Пасля набажэнства вернікі прайшлі з працэсіяй вакол касцёла. На заканчэнне былі праспяваныя гімны "Цябе, Бога, праслаўляем..." і "Магутны Божа".

Далей святкаванне перайшло на прыкасцельную тэрыторыю, дзе парафіяльны фэст ператварыўся ў свята вёскі Дунілавічы. Вернікі падрыхтавалі з гэтай нагоды канцэрт і добры пачастунак, які спажываўся асабліва смачна, бо праходзіў на свежым паветры і ў вялікай хрысціянскай сям'і вернікаў.

Падчас канцэрту мясцовы краязнаўца Франц Хоміч распавёў прысутным пра гісторыю касцёла і парафіі ў Дунілавічах.

Сучасны касцёл у Дунілавічах быў пабудаваны ў 1769-1783 гадах. Пасля паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага касцёл перадалі праваслаўным вернікам. У 1919 годзе ён зноў быў вернуты католікам і дзейнічаў да пасляваеннага часу. Савецкія ўлады ператварылі святыню ў збожжасховішча, вернікам ён быў вернуты толькі на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя.

Біскуп Алег Буткевіч ужо неаднойчы бываў у Дунілавічах, але ў якасці Пастыра дыяцэзіі гэта першы яго візіт, які, несумненна, запомніцца вернікам.



Краязнаўца Франц Хоміч распавядае пра гісторыю касцёла ў Дунілавічах.



# Біскуп Алег Буткевіч у Шаркаўшчыне: “Усё, ахвяраванае Богу, вяртаецца чалавеку”



**У нядзелю, 12 кастрычніка, біскуп Алег Буткевіч наведаў парафію Узвышэння Святога Крыжа ў Шаркаўшчыне, дзе ўдзяліў сакрамант канфірмацыі шаркаўшчынскім вернікам, а таксама кандыдатам з дзвюх суседніх парафій.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Парафіяне ўрачыста сустрэлі свайго біскупа. Касцёл запоўніўся людзьмі, сярод якіх было шмат моладзі. На тварах людзей чыталася непадробная радасць ад сустрэчы са сваім духоўным пастырам. Пробашч касцёла Кшыштаф Сілкоўскі прывітаў біскупа і святароў з суседніх парафій, якія прыехалі на гэтую ўрачыстасць. Потым распачалася святая Імша, якую ўзначаліў віцебскі іерарх.

Падчас казання біскуп узгадаў сваю нядаўнюю сустрэчу з Папам Францішкам. Паводле яго меркавання, уражанні ад гэтага спаткання цяжка перадаць словамі. Гэта выглядала як сустрэча з сапраўдным айцом.

## Працуеце, а не маеце…

Кіраўнік дыяцэзіі звярнуў увагу на тое, што, едучы ў Шаркаўшчыну, бачыў, як людзі ў нядзелю працуюць на палях. Няўжо ж нам не хапае для гэтага шасці дзён, якія адвёў нам Бог? Часта можна пачуць у адказ, што людзям нестае часу. Але прычына простая: нам не хапае часу на Бога. Далей віцебскі ардынарый прывёў словы біблейскага прарока: “Вы працуеце, а не маеце, сееце і не збіраеце, зарабляеце і адкладваеце гэта, як у дзіравы мяшок.” Словы, напісаныя больш за дзве тысячы гадоў таму, як ніколі актуальныя і сёння.

*...ардынарый прывёў словы біблейскага прарока: “Вы працуеце, а не маеце, сееце і не збіраеце, зарабляеце і адкладваеце гэта, як у дзіравы мяшок.”*

У сваім казанні біскуп спыніўся на праблемах сям’і, якія сёння вельмі востра стаяць перад грамадствам. Часта чалавек тлумачыць стварэнне сям’і тым, што ён закахаўся, што яму добра са сваім абраннікам. Але ў першую чаргу – гэта адказнасць перад Богам: “Гэтага чалавека мне дае Бог, і за гэтага чалавека ўскладае на мяне адказнасць. І гэта маё пакліканне Божае”.

Звярнуў увагу кіраўнік дыяцэзіі і на тое, што канфірмацыя не павінна стаць для маладых людзей момантам урачыстага расставання з Касцёлам. Бо ў сённяшнім свеце ўсё менш увагі чалавек удзяляе Богу.

## Навошта Бог чалавеку?

“Калі мне Бог патрэбны толькі на тое, каб мець здароўе, знайсці грошы, уладкаваць сваё жыццё, то ўявіце сітуацыю: калі я ўсё гэта маю, то дзе ёсць месца на Бога?” – рытарычна спытаў біскуп.



Закончыў жа сваё казанне біскуп Алег словамі Хрыста, што ў першую чаргу трэба шукаць Валадарства Божага, а астатняе прыкладзецца вам.

Пастыр дыяцэзіі ўдзяліў сакрамант канфірмацыі вернікам з трох парафій. Вельмі цешыла, што сярод кандыдатаў на бежмаванне было шмат моладзі. А для верніцы Ірыны было двайное свята: яна прымала сакрамант канфірмацыі ў дзень свайго нараджэння, калі ёй споўнілася сямнаццаць гадоў. На пытанне “Чаму маладому чалавеку важна хадзіць у касцёл?” Ірына адказала словамі, з якімі цяжка не пагадзіцца: “Бог заўсёды павінен быць на першым месцы. Бо калі Бог на першым месцы, то ўсё астатняе будзе на сваім месцы”.

## Запавет для моладзі ад біскупа

Напрыканцы набажэнства біскуп яшчэ раз звярнуўся да вернікаў. Ён нагадаў моладзі, якая хутка пакіне бацькоўскія дамы і паедзе на вучобу ці на працу, каб там таксама не забываліся на сваю веру, не саромеліся яе, каб кожную нядзелю наведвалі святую Імшу, і не пакідалі сваёй сувязі ні з бацькоўскім домам, ні з Касцёлам.

Таксама кіраўнік дыяцэзіі нагадаў, што сям’я – гэта маленькі Касцёл. Таму вельмі важна, каб і бацькі, і дзеці дома разам маліліся, бо, як кажа Госпад, там, дзе двое сабраныя ў Імя маё, і Я сярод іх. Біскуп яшчэ раз падкрэсліў: “Не бойцеся прысвяціць Богу свой час. Ён ніколі не будзе страчаны. І не толькі час. Усё, ахвяраванае Богу, вяртаецца чалавеку”.

Віцебскі ардынарый звярнуў увагу на тое, што ў касцёле прысутнічала шмат мужчын. На гэтым біскуп акцэнтуе ўвагу ўжо не першы раз, падкрэсліваючы, што мужчыны не павінны саромецца сваёй веры, а быць у першых радах у святыні. Як прыклад ён прывёў моцны інстытут сям’і ў мусульман, дзе мужчына карыстаецца аўтарытэтам і на першым месцы мае Бога. Так павінна быць і ў нас, у хрысціян. А будзе моцная хрысціянская сям’я – будзе моцнае і наша грамадства.





# Адноўленыя фрэскі ў камайскім касцёле



**Біскуп Алег Буткевіч 19 кастрычніка асвяціў фрэскі і прэзбітэрый, якія аднавілі ў камайскім касцёле Святога Яна Хрысціцеля, што на Пастаўшчыне. Гэты касцёл збудаваны ў сямнаццатым стагоддзі і лічыцца самым старым у Віцебскай дыяцэзіі.**

■ **Таццяна Смоткіна**, *тэкст;*
**Марына Сінкевіч**, *фота*

Па словах ксяндза Яцэка Хутмана, які служыць у Камаях, яны рабілі рэстаўрацыю, каб паказаць людзям, што касцёл жыве, як і вера ў Бога. А як кажуць камайскія вернікі, асабліва старажылы, самае вялікае шчасце для іх было ўбачыць прыгожую і адноўленую святыню. Бо шмат хто з іх узгадвае тыя часы, калі разам з былымі ксяндзамі, а часам і адны адстойвалі правы на яе існаванне.

Асабліва цяжка, паводле слоў старэйшых вернікаў, было ў часы камуністычнага рэжыму. Толькі дзякуючы розуму і намаганням ксяндза Андрэя Булькі, які служыў тут з 1944-га па 1974-ы год, касцёл тады не зачынілі. Да таго ж святар у ваенны час дапамог схавацца ад немцаў аднаму партызану, які потым служыў у КДБ і паспрыяў, каб касцёл дзейнічаў і пры савецкай уладзе.

Заступнікам вернікаў у касцёле лічаць пакутніка ксяндза Ежы Папялушку, якому на той час, пры камуністах, не пашчасціла. Ён быў духоўным апекуном руху "Салідарнасць" у Польшчы. Тысячы людзей прыходзілі паслухаць яго казанні, бо святар адважна выказваўся аб правах чалавека, крытыкаваў камуністычную ўладу, асуджаў гвалт і нянавісць. 19 кастрычніка 1984 года на зваротнай дарозе з Быдгашча, дзе ён цэлебраваў Імшу, кс. Ежы Папялушка быў выкрадзены і забіты прадстаўнікамі службы бяспекі. Толькі вечарам 30 кастрычніка ў Вісле знайшлі цела святара. 6 чэрвеня 2010 года ў Варшаве адбылася яго беатыфікацыя.

На імшы ў Камаях Ежы Папялушку ўзгадвалі ў малітвах, спевах і вершах. А мясцовы паэт Аркадзь Нафрановіч, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў, прысвяціў верш гэтаму смеламу святару і назваў яго "Адважны паслядоўнік Хрыста".

Для шматлікіх вернікаў з Камаяў гэта быў адметны дзень. А вось для маленькай Таццяны-Кацярыны з сям'і..., бацька якой унёс значны ўклад у аднаўленне касцёла, стаў яшчэ і знакавым. У гэты дзень яна прыняла хрост, які правёў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч.

Напрыканцы набажэнства камайскія вернікі атрымалі бласлаўленне ад біскупа.

**Адважны паслядоўнік Хрыста**

***Памяці кс. Ежы Папялушкі***

*Падчас Імшы за край радзімы*
*Сказаў ксёндз Ежы нездарма.*
*Маўчаць было ўжо немагчыма:*
*Свабоды слова ў нас няма!*

*І на рэжым камуністычны*
*Палякам вочы адкрываў.*
*Сабою стройны, сімпатычны,*
*Народжаны для добрых спраў.*

*Яму, заступніку касцёла,*
*І волат пазайздросціць мог:*
*Хоць быў ён ад прыроды кволы,*
*Ды не зламаў яго астрог.*

*І, як ніхто, сумленнем чысты*
*Меў смеласць праўду гаварыць.*
*І парашылі камуністы*
*Аратара са свету зжыць.*

*Яго забілі д'ябла слугі,*
*Яны выконвалі заказ.*
*У Вісле цела Папялушкі,*
*І бег спыніў ягоны час.*

*Гарэлі свечкі...*
*Вецер плакаў –*
*Загінуў слаўны чалавек.*
*Ксёндз Ежы – будзе жыць ён век*
*Ва ўдзячнай памяці палякаў.*

***Аркадзь Нафрановіч***

**Біскуп Алег Буткевіч хрысціць маленькую Таццяну-Кацярыну ў Камаях.**



# Біскуп Буткевіч асвяціў капліцу ў шпіталі ў Шаркаўшчыне

**У Шаркаўшчыне 12 кастрычніка біскуп Буткевіч асвяціў капліцу ў мясцовым шпіталі.**

■ **Лена Колтан-Клімза**, *тэкст;*
**Марына Сінкевіч**, *фота*

Асвячэнне адбылося ў прысутнасці галоўнага ўрача шпіталя Станіслава Стомы і старшыні Шаркаўшчынскага райвыканкама Мікалая Баговіча. Галоўны ўрач прывітаў біскупа словамі: «Як жа даўно мы Вас чакалі!» Справа ў тым, што яшчэ два гады таму адбылося адкрыццё бальніцы. І да гэтага часу тут была магчымасць для хворых людзей лячыць толькі цела, але не душу.

На пачатку малітвы ардынарый Віцебскай дыяцэзіі сказаў: «Мы знаходзімся ў «святая святых». Бо менавіта тут у цяжкія хвіліны свайго жыцця чалавек набліжаецца да Бога. І лепш разумее сэнс Хрыстовых пакут». Пасля цырымоніі асвячэння капліцы прамаўляў старшыня райвыканкама, у прыватнасці зазначыўшы, што «без веры чалавек бездапаможны». Вельмі сімвалічным стаў падарунак для біскупа – абраз, выкананы ва ўсходнім стылі. Біскуп Алег падзякаваў за падарунак і перадаў абраз у дар новаасвечанай капліцы.



# Уцякаючы ад вайны: мінскі “Карытас” даў прытулак бежанцам з Украіны


Наталля Александровіч

**Каталіцкі Касцёл, натхнёны словам і прыкладам Папы Францішка, усё больш звяртае ўвагу на людзей, якім патрэбная пільная дапамога. Арганізаваная праца вядзецца праз прадстаўніцтвы каталіцкай дабрачыннай арганізацыі “Карытас”. “Карытас” у Бараўлянах дапамагае анкалагічна хворым дзецям. Пра гэтую працу чытайце ў рэпартажы “Каталіцкага Весніка”.**

**Пад’язджаючы да будынкаў арганізацыі, заўважаем, што вуліца ў вёсцы Ляскоўка носіць назву “Карытас”. Не выклікае сумневу, што мы на месцы.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;* **Ірына Грэйць**, *фота*

## Дапамога тым, хто ў патрэбе

Нас, журналістаў з Віцебшчыны, сустракае намесніца дырэктара “Карытас” Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Вольга Лабуць. Яна ветліва запрашае прайсці ў гасцёўню, каб абмеркаваць падрабязнасці рэпартажу. Зразумела, што тэма далікатная. Наперадзе ў нас сустрэча з цяжкахворымі дзеткамі і іх бацькамі.

На маё пытанне, чым жа канкрэтна дапамагае мінскі “Карытас” хворым дзецям, Вольга адказвае: “Мы, канешне ж, не лечым дзяцей. Гэтым займаюцца лекары ў Дзіцячым анкалагічным цэнтры ў Бараўлянах. Аднак дапамога наша істотная. Мы даём дзеткам і іх бацькам магчымасць жыць у будынках “Карытас” падчас лячэння. Уявіце сабе, што хтосьці мае патрэбу ў лячэнні ў Бараўлянах, а пражывае дзесьці ў Гродне ці іншым аддаленым месцы”.

**– Як гэта выглядае на практыцы?**

– У лячэбным цэнтры даюць інфармацыю пра нас тым, хто мае патрэбу, і накіроўваюць іх сюды. Мы даём месца для пражывання, але харчуюцца сем’і за свой кошт. Днём дзетак адвозяць на працэдуры, а пасля яны зноў вяртаюцца ў Ляскоўку. Тут для іх створаны добрыя ўмовы. Калі ласка, хадзем – і ўсё пабачыце самі.

Пачынаецца наша экскурсія, і мы ідзём у наступны будынак, дзе непасрэдна пражываюць хворыя дзеткі і іх апекуны. Нас суправаджае супрацоўніца “Карытас” Наталля Александровіч, якая непасрэдна курыруе праект з анкалагічна хворымі дзеткамі. Наталля распавядае: “Мы са свайго боку штомесяц рыхтуем для дзяцей святочныя мерапрыемствы з нагоды 1 верасня, Дня маці, Калядаў, Пасхі і г.д... Шчыльна супрацоўнічаем са студэнтамі-добраахвотнікамі з дзяржаўнага інстытута кіравання і сацыяльных тэхналогій пры БДУ. Дырэктар арганізацыі кс. Аляксандр Фаміных кожную сераду адпраўляе св. Імшу ў капліцы, на якую часта прыходзяць і нашыя пастаяльцы”.

## Лагодная ўсмешка і смяротная хвароба

Заходзім у першы будынак, дзе нас чакае сустрэча з Вольгай Савянок – мамай маленькай Насці. Аглядаюся вакол. Заўважаю, што абстаноўка вельмі ўтульная. У гасцявым пакоі стаіць тэлевізар, ёсць дзіцячыя цацкі. Пакуль чакаем госцю, Наталля працягвае распавядаць: “Цэнтр разлічаны на 19 сем’яў. На дадзены момант у нас прабывае 10 сем’яў. Кожная сям’я мае свой асобны санблок, а таксама агульную на тры-чатыры сям’і кухню і залу для адпачынку з тэлевізарам. Самі разумееце, што такія ўмовы для людзей, што апынуліся ў складанай сітуацыі, вельмі важныя”.

Уваходзіць Вольга – маладая дзяўчына з лагоднай усмешкай. Па яе аблічы не скажаш, што чалавек змагаецца са смяротнай хваробай свайго дзіцяці.

“Мы самі з Мазыра. Умовы для пражывання, якія мы тут маем, нас вельмі задавальняюць, – кажа Вольга. – Уявіце сабе, мы ўжо лечымся два з паловай гады. І гэта пастаяннае прабыванне ў шпіталі. Дзіця пасля трансплантацыі. Імунітэт аслаблены, таму ў “Карытас” якраз тое, што трэба. Цудоўная прырода, блізка лес і цішыня”.

Гледзячы на Вольгу, не магу ўстрымацца ад пытання: “Як Вам удаецца не зламацца ў гэтай барацьбе з хваробай?”

“На пачатку было вельмі складана, але потым я ўжо і прывыкла, і Насця хоць і маленькая – ёй амаль чатыры гады, – але ўжо разумее, што яна хворая. Муж вельмі падтрымлівае, прыязджае на выхадныя, калі ў яго ёсць вольны час. Мне вельмі падабаецца, што тут адпраўляецца св. Імша. Гэта такая моцная духоўная падтрымка. Я сама праваслаўная, але для мяне няма ніякай розніцы, што службу вядзе каталіцкі святар. Хачу выказаць глыбокую ўдзячнасць нашым гасцінным сябрам з “Карытас”.

## Падвойная бяда ў адной сям’і

Развітаўшыся з Вольгай, накіроўваемся разам з Наталляй у наступны будынак, дзе пражывае сям’я з Украіны. Гэтых людзей спаткала падвойная бяда: анкалагічнае захворванне маленькага Кірыла і вайна на Данбасе.

Нас сустракае Ірына, праз некалькі хвілін прыходзіць Аляксандр у камуфляжнай форме. Сваё адзенне тлумачыць месцам працы: “Я сам грамадзянін Беларусі, хоць і пражываў ва Украіне. Цяпер вось знайшоў працу ў ваенкамаце”.

***Гэтым разам прыехалі на лячэнне, а вяртацца ўжо няма куды***

Ірына расказвае: “Дзённы стацыянар у Бараўлянах даў накіраванне нам сюды пажыць. І нам тут спадабалася. Ужо з 2012 года ездзім на лячэнне сюды, у Беларусь. Гэта магчыма яшчэ і таму, што Кірыл мае таксама беларускі пашпарт. Тут вельмі добразычлівыя людзі. Гэтым разам прыехалі на лячэнне, а вяртацца ўжо няма куды”.

“Вы выехалі на лячэнне перад ваенным канфліктам?” – удакладняю. “Канфлікт ужо быў у Славянску, але мы мелі магчымасць выехаць 19 чэрвеня”, – адказвае Аляксандр. Працягвае Ірына: “А 29 ліпеня, калі ўжо былі ў Беларусі, стала вядома, што нам разбамбілі кватэру. Снарад трапіў у столь. Там цяпер агромністая дзірка. А маёмасць раскралі марадзёры. У хаце нічога няма. Ведаю гэта, таму што там заставаўся наш старэйшы сын. Я так за яго хвалявалася! Дзякуй Богу, што тады яго не было дома! На шчасце, цяпер ён у Беларусі і яму нічога не пагражае. І мы такія шчаслівыя, што можам пакуль пажыць тут, у “Карытас”. Ксёндз Аляксандр Фаміных такі спагадлівы! Ён так шмат нам дапамог! Да нас такія адносіны ў людзей, што мы адчуваем сябе як дома”.

## Хто вінаваты ў вайне?

Аляксандр ідзе ў дзіцячы пакой і вяртаецца з Кірылам. Хлопчыку на выгляд каля чатырох гадоў. Я не магу ўстрымацца і задаю пытанне, якое вярэдзіць сэрцы многіх беларусаў: “Скажыце, калі ласка, на ваш погляд, дзе ж усё-такі праўда ва Украіне? Хто вінаваты, што разгарэўся ваенны канфлікт на Данбасе?”

“Як вам сказаць? – задуменна адказвае Аляксандр. – На маю думку, вінаватыя нацыяналісты і вінаваты ўрад. Улада, якая была да Майдана і пасля Майдана, вінаватая ў тым, што ва Украіне ідзе вайна. У нас няма парадку”. “А якая павінна быць будучыня Данбаса?” – пытаюся. “Хто яго ведае? – кажа Аляксандр. Падобна да таго, што ёсць зацікаўленыя людзі, якім патрэбная гэта вайна, як з аднаго боку, так і з іншага. На жаль... Я сам ваенны чалавек і ваяваў у Афганістане. На мой погляд, тактыка зацяжнога канфлікту выгадная як “дэнээраўцам”, так і сённяшняму ўкраінскаму ўраду”.

Час хутка бяжыць, і я кажу, што мы павінны ўжо вяртацца дамоў, але Аляксандр і яго жонка не хочуць і чуць пра адыход. Сядаем за стол і разам п’ём гарбату, пакінуўшы ваенную тэматыку.

На развітанне жадаем добрага здароўя Кірылу, а Ірыне і Аляксандру – сустрэць яшчэ больш добрых людзей на беларускай зямлі. Калі хтосьці з нашых чытачоў захоча дапамагчы ўцекачам і іншым сем’ям, што пражываюць у мінскім “Карытас”, то можа перавесці ахвяраванне на рахунак гэтай дабрачыннай арганізацыі.

## Для ахвяраванняў:

**УНП 101131305, ОКПО 37416965**
**р/р 3135000000021 (бел.руб.)**
**Ф-л 510 ОАО «АСБ Беларусбанк» код 153001603.**
**Адрас банка: Куйбышава, 18**

**Адрас “Карытас”:**
**220058, Мінскі р-н,**
**в. Ляскоўка, вул. Карытас, 1**
**Т/факс: + 375 (017) 265 18 78**
**e-mail: caritas@caritas-minsk.by**




## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Ганна Карніловіч** (в. Шунеўцы, Глыбоцкі р-н), **Марыя Кавалеўская** (Докшыцы), **Вольга Парневіч** (в. Крулеўшчына), **Соф’я Машара** (Мёры), **Вікторыя Свідзерская** (в. Коўшалева, Шаркаўшчынскі р-н), **Леанід Грыбач** (Гомель), **Яніна Дулінец** (в. Савуткі, Шаркаўшчынскі р-н), **Яна Парфяловіч** (Браслаў), **Алімпія Цішко** (в. Старыя Габы, Мядзельскі р-н), **Вольга Баранава** (Браслаў), **Вольга Абуховіч** (в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н), **Л.Ф.Альхімовіч** (Браслаў), **Л.С.Кісель** (в. Быстрымаўцы, Браслаўскі р-н), **Раман Цярэнцьеў** (Полацк).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам!

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”*

# Пра якую жонку мараць хлопцы-каталікі?

**"Пра якую жонку мараць хлопцы-каталікі?" На гэтае пытанне "Каталіцкаму Весніку" адказалі маладыя людзі, разважаючы пра сваю будучую абранніцу.**

*Гутарыла Ірына Грэйць*





**Павел Жаўняровіч:**
– Пра якую жонку я мару? Канешне ж, пра самую каханую. Ніякія якасці не перашкодзяць кахаць. Але ўсё ж сям'я – не толькі я... Гэта як мінімум два, а лепш тры, чатыры і больш родных людзей. Каб стварыць гармонію ў такой сям'і, мая жонка павінна любіць дзяцей... І не толькі сваіх, але ўсіх на свеце! Хачу, каб, гледзячы на нас, нашыя дзеці вучыліся любіць сваю будучую сям'ю, шанаваць яе, паважаць. Але ў мяне нічога не атрымаецца, калі мая жонка не зразумее гэтага. Буду паважаць яе пакорлівасць. Я не заўсёды маю рацыю, таму ёй патрэбны дар мудрасці. Вельмі парадуе, калі яна будзе любіць Госпада больш за мяне. Бо той, хто любіць Яго, ніколі не развучыцца кахаць па-сапраўднаму.





**Аляксей Крыкун:**
– Мая будучая жонка павінна сачыць за сваёй знешнасцю. Трэба, каб яна была адукаванай. Такая жонка зможа падтрымаць любую тэму ў размове, падыскутаваць, выказаць сваё меркаванне. Дзяўчына не павінна быць грубай. Непрыгожа, калі яна мацюкаецца. Хацелася б, каб мяне і сваіх бацькоў шанавала і паважала. Не здраджвала мне. Была б у кожную хвіліну гатовая дапамагчы тым, хто мае патрэбу.
Але, напэўна, выбіраеш жонку так, як падкажа сэрца, а не па пэўных параметрах. Каханне важнейшае за розныя іншыя крытэрыі.



**Сяргей Ламачэўскі:**
– Я, як і шмат маладых людзей, задумваўся пра тое, якой бы я хацеў бачыць тую, каторая пражыве са мною ўсё жыццё. Найчасцей гэта былі толькі знешнія вобразы. Але з узростам я ўсё больш стаў звяртаць увагу на ўнутраныя якасці. Шмат бачыў прыгожых, але пустых дзяўчат. Усё больш разумею, што дзяўчына павінна быць сабою. Не ствараць вобраз ідэальнай і правільнай. Мець унутраную свабоду ад стэрэатыпаў, самападманў, навязаных каштоўнасцей і паводзін. Пры гэтым, прызнаючы свае слабасці і працуючы над сабой, развівацца як асоба.

Знешнасць? Яна проста павінна мне спадабацца сваёй натуральнай (нічога прыгожага не знаходжу ў вялікай колькасці касметыкі) прыгажосцю. Але знешнасць не галоўнае.

Нам павінна быць цікава разам, нашы жыццёвыя каштоўнасці павінны быць падобнымі. Слаба веру ў моц сям'і, дзе замест Госпада, Які аб'ядноўвае сэрца і душу, дамінуе штосьці іншае. Без Божага падмурку, на якім будуецца ўменне па-сапраўднаму кахаць, прабачаць і ахвяроўваць сабой, немагчыма захаваць шчаслівую сям'ю.



**Аляксандр Матыяшкойць:**
– Я думаю, мая будучая жонка павінна мне перш за ўсё падабацца. Я б не хацеў, каб гэта было, скажам, каханне за грошы. Яна павінна быць вельмі прыгожай, не вельмі маленькага росту, бо мой рост два метры, колер валасоў не мае значэння. Я вельмі спакойны, памяркоўны, таму хацелася б, каб жонка па характары мне адпавядала. Не зусім спакойная, але з "агеньчыкам". Пажадана каталічка, ну, можа, праваслаўная. Варыянтаў з атэізмам або з іншымі вераваннямі я не разглядаў бы (спадзяюся, гэта мяне абміне). Важна, каб яна мела таксама пачуццё гумару.



**Андрусь Такінданг:**
– Маю шмат знаёмых мужчын-каталікоў, і ва ўсіх іх жонкі розныя. Яны розняцца як па знешнасці, так і па характары. Таму, відаць, агульнага закону тут няма. Што датычыцца мяне, дык магу распавесці пра сваю будучую жонку. Яе завуць Ганна. Яна прыгожая, разумная, мае моцны характар, яна крытычна глядзіць на свет, але пры гэтым ласкавая і пяшчотная. Мае добрае пачуццё гумару, у побыце практычная. Не баіцца шчыра выказваць сваю думку. Задужа крытычная ў адносінах да сябе. Трымаецца каталіцкай веры. Прагне падарожнічаць, спасцігаць сябе і свет.

## Віншуем з юбілеем!

*Нашу парафію імя Міхала Арханёла, што ў Варапаеве, узначальвае* ***ксёндз-пробашч Чэслаў Куцмеж****. У лістападзе ён адзначае свой 55-гадовы юбілей!*

*Ад імя ўсёй парафіі віншуем Вас, паважаны* ***кс. Чэслаў****, са святам! Наш* ***ксёндз Чэслаў*** *– гэта святар, які глыбока ведае духоўныя і матэрыяльныя патрэбы людзей. Кожнае яго слова моцна западае ў душу. Ён нясе людзям радасць Евангелля, якая прарастае ў сэрцах шчырай верай. Святарскі шлях ахвярны і нялросты, бо трэба не толькі добра разумець людскую душу, але адначасова неабходна быць добрым гаспадаром, будаўніком і арганізатарам. Ён разам з намі перажывае святыя сакраманты, каб разам ісці дарогай еднасці з Хрыстом. Ён адганяе трывогу і прыносіць супакой.*

*Паважаны* ***ксёндз Чэслаў****!*
*Прыміце сёння нашы віншаванні,*
*Паклон падзякі нізкі, да зямлі.*
*Здароўя вам, дабраславення Пана,*
*Апекі Маці Божай, цеплыні!*

*Каб кожны дзень, асветлены дарамі*
*Святога Духа, праўдай адкрыцця,*
*Віталі мы сардэчна з вамі!*
*Вам доўгіх і шчаслівых год жыцця!*

***Вернікі парафіі імя Святога Міхала Арханёла г.п. Варапаева***

# Касцёлу ў Лужках – 270 гадоў

**У панядзелак, 29 верасня, адбылася вялікая падзея ў жыцці парафіі святога Міхала Арханёла ў в. Лужкі (Шаркаўшчынскі р-н). Вернікі адзначалі 270-годдзе парафіяльнага касцёла. Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел святары не толькі з Віцебскай дыяцэзіі, але завіталі і госці з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, таксама прысутнічалі прадстаўнікі мясцовай і раённай улады.**

■ **Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*



Перад пачаткам святой Імшы мясцовы краязнаўца Эдмунд Гірын распавёў гісторыю гэтага касцёла.

Святочную Літургію цэлебраваў кс. Кшыштаф Мянкін. Падчас гаміліі святар звярнуў увагу прысутных на асобу Арханёла Міхала. На заканчэнне прамоўца паставіў пытанне: «Як часта мы звяртаемся да сваіх анёлаў-ахоўнікаў», каб кожны змог задумацца над адказам і не забываў прызываць сваіх заступнікаў у кожнай справе.

Пасля набажэнства адбылося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту, рушыла працэсія вакол касцёла, потым з вуснаў парафіян прагучаў гімн "Цябе, Бога, праслаўляем".

Канешне ж, парафіяне не забыліся і пра свайго пробашча, кс. Міхала Татарэнку, які адзначаў дзень свайго заступніка. Цёплыя словы падзякі і віншаванняў прагучалі ў адрас святара.

Са словамі ўдзячнасці і віншаванняў з нагоды юбілею святыні звярнуліся намеснік старшыні Шаркаўшчынскага раённага выканаўчага камітэта Юрый Васілеўскі і старшыня Лужкоўскага сельскага савета Таццяна Краснадубская.

* * *

Святыня ў Лужках пабудавана з цэглы ў 1744–1756 гг. пры кляштары піяраў. У 1832 годзе кляштар валодаў 13 вёскамі з 330 жыхарамі. Сярод выкладчыкаў калегіума былі прафесары Віленскага універсітэта. У 1832 годзе калегіум закрылі, а піяраў выгналі. У 1843 годзе касцёл перабудавалі пад праваслаўную святыню, а пасля ІІ Сусветнай вайны і яе зачынілі. У будынку касцёла захоўваліся штучныя ўгнаенні. У 1988 годзе святыню вярнулі католікам, і пасля аднаўлення яна зноў пачала дзейнічаць. Цяпер касцёл мае статус помніка архітэктуры позняга барока з характэрнымі рысамі і багаццем дэкаратыўнай пластыкі. Унутры скляпенні ўпрыгожаны арнаментамі і жывапісам. Галоўны алтар аздаблялі фігуры з дрэва, якія былі знішчаныя. Над уваходам знаходзяцца хоры, агароджаныя хвалістым парапетам.

# Крулеўшчына і місіянеры

**Цёплым летнім днём 1994 года ў Крулеўшчыну прыехаў ксёндз-місіянер Ян Фібэк. Адразу пачалося адраджэнне рэлігійнага жыцця ў нашай мясцовасці.**

■ **Генуэфа Парневіч**, *аграгарадок Крулеўшчына Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці*

Кожную нядзелю мы маліліся пад адкрытым небам на месцы разбуранай святыні. Нясцерпна горача было тым летам, але людзі з затоеным дыханнем лавілі кожнае слова святара, бо тады святая Імша была як глыток свежага паветра ў вельмі цесным памяшканні. Пазней, калі на дварэ стала холадна, вернікі разам са святаром маліліся ў "чырвоных кутках" розных арганізацый.

## Рамонт з энтузіязмам

У верасні 1994 года па рашэнні райвыканкама Крулеўшчынскай каталіцкай парафіі быў бясплатна перададзены будынак спартыўнай залы былой мясцовай школы. Але ў ім цэлымі аказаліся толькі абшарпаныя сцены. З вялікім энтузіязмам і натхненнем узяліся людзі за рамонт будучага касцёла. Нельга было без слёз глядзець, як пажылыя вернікі стараліся прымаць самы непасрэдны ўдзел у працы, прыносілі значныя ахвраванні са сваіх сціплых пенсій. І ўжо 24 снежня ў новым касцёле была адпраўлена першая святая Імша. Было холадна, няўтульна, але на вочы вернікаў набягалі слёзы радасці.

Дзякуючы грашовым сродкам вернікаў і, безумоўна, самога святара Яна Фібэка, некаторай дапамозе з-за мяжы, мясцовым арганізацыям некалі разбітаму будынку быў нададзены выгляд святыні.

## Вытанчаны густ душпастыраў

Мы, парафіяне, нізка схіляем галовы і вельмі ўдзячныя ўсім святарам-місіянерам, сёстрам законным, якія на пэўны час пакінулі сваю Радзіму і прыехалі несці Божае слова ў чужы край. Незнаёмыя ім мясціны, чужая мова, няўтульныя ўмовы жыцця, а таксама недахоп рэлігійнай пісьменнасці нашых вернікаў на той момант – усё гэта вымагала вялікіх фізічных і душэўных сіл.

Потым некаторы час у нашай парафіі працаваў айцец Марэк Пасют. Дзякуючы яго-наму вытанчанаму густу і залатым рукам майстроў быў зроблены прыгожы галоўны алтар, пабудаваны калоны, выдатна аздоблена столь, заменены вокны.

Да канчатковага ладу прывесці наш храм давялося ксяндзу Юрыю Бараўнёву. Маючы ад Бога яшчэ і здольнасці мастака-архітэктара, ён зрабіў прыбудову, што надало святыні яшчэ больш велічны выгляд.



## "Цяжка прыкутаму Боженьку вісець..."

У кастрычніку 2009 года касцёл Найсвяцейшага Сэрца Езуса быў асвечаны. А ў чэрвені 2014 года ў нашу парафію завітаў біскуп Алег Буткевіч. Радасцю свяціліся вочы людзей падчас святой Імшы. Вернікі ўважліва слухалі словы святароў. У гэты дзень многім парафіянам быў удзелены сакрамант бежмавання.

На ўездзе ў Крулеўшчыну па дарозе з Докшыц чатыры гады таму замест старога драўлянага крыжа быў узведзены прыгожы металічны з фігуркай укрыжаванага Хрыста. Мінулым летам каля крыжа праходзілі дзеці пятага-шостага класаў. Адзін з іх з болем у голасе прамовіў: "Цяжка прыкутаму Боженьку вісець..." А зусім нядаўна каля крыжа спынілася вялікая машына з замежнымі нумарамі, выйшаў з кабіны шафёр, перажагнаўся, нізка пакланіўся.

Дзякуючы руплівым рукам мясцовай верніцы Галіны Кіцько вакол крыжа з ранняй вясны да позняй восені буяюць кветкі, асабліва квітнеюць ружы. Тут заўсёды чыста, прыгожа, утульна і спакойна.

Сапраўды, на Беларусі Бог жыве! Жыве Бог і ў Крулеўшчыне!

# Якія святыя заступнікі ў цыган?

*"Хвала Хрысту! Якія святыя заступнікі ў цыган?"*
*Наталля*



**На пытанне адказвае кс. Валерый Марціноўскі:**

– Заступніцай цыган з'яўляецца святая Сара, якую інакш называюць Калі Сара альбо Чорная Мадонна. Цэнтр яе культу знаходзіцца ў Saintes-Maries-de-la-Mer, месцы пілігрымак цыган на поўдні Францыі. Адкуль жа паходзіць і кім была св. Сара? На жаль, на гэтыя пытанні можна адказаць толькі зыходзячы з легенды, якую самі цыгане-хрысціяне пераказваюць з пакалення ў пакаленне. У чым жа сутнасць легенды?

Падчас першых пераследаў хрысціян, праўдападобна ў 42 г. н.э., Лазар, Марыя Магдалена, Марта, Марыя Саламея, Марыя Якубава, уцякаючы ад рэпрэсій, трапілі па моры на поўдзень Галіі (а гэта і ёсць Saintes-Maries-de-la-Mer). Пэўная вандроўная цёмнаскурая жанчына, якая была вельмі добразычлівай, дапамагала збіраць ахвяры для бедных, далучылася да вандроўнікаў са Святой зямлі і стала прыслугоўваць Марыі Якубавай (жонцы Алфея, якая была сваячкай Маці Божай). Цыгане, бачачы ў постаці св. Сары падабенства да свайго стылю жыцця, выбралі яе сабе за апякунку.

Калі ж крытычна паглядзець на дадзеную справу, то можна з лёгкасцю заўважыць падабенства культу св. Сары з культам індыйскай багіні Калі (цыгане – этнічная група індыйскага паходжання). Хоць сама святая і яе легендарнасць, а таксама культ і яго развіццё не маюць задакументаваных гістарычных падстаў, але ў вобразе асобы, якую цыгане назвалі св. Сарай, выяўляецца вялікае жаданне апошніх быць блізка да Езуса. А гэта для кожнага народа з'яўляецца самым істотным.

# Каляндар на лістапад

**Месяц лістапад – гэта цудоўная магчымасць атуліць малітвай не толькі памерлых родных і блізкіх, але і ўсіх тых, хто адышоў да дому Айца.**

Калі мы верым, што разам са смерцю жыццё чалавека не закончыцца, а толькі зменіцца, мы павінны таксама ўсведамляць, наколькі вялікая наша адказнасць за памерлых. Мы ўжо не можам сустрэцца з імі фізічна, але можам сустрэцца з імі ў знаку веры – у малітве, у святых Сакрамантах, ва ўчынках міласэрнасці для бліжніх.

**На гэты месяц прыпадаюць наступныя святы і ўспаміны:**

**1 лістапада – свята Усіх Святых. Гэта ўрачыстасць з'яўляецца абавязковай.**

**2 лістапада – успамін усіх памерлых.**
У гэты дзень можна атрымаць поўны адпуст тым, хто наведае могілкі, а таксама выканае адпаведныя ўмовы: трэба быць пасля споведзі, прыняць Святую Камунію і памаліцца ў інтэнцыі святога Айца.

**12 лістапада – успамін святога Язафата Кунцэвіча, апекуна Віцебскай дыяцэзіі.**



Знакаміты ўніяцкі дзеяч, арцыбіскуп Полацкі быў забіты ў часы барацьбы паміж абаронцамі і праціўнікамі ўніі.

**16 лістапада – успамін Маці Божай Вострабрамскай.**

**23 лістапада – успамін Хрыста Валадара Сусвету.**
Гэтая ўрачыстасць бярэ свой пачатак у 1925 годзе, калі Папа Пій XI энцыклікай "Quas primas" 11 снежня 1925 года абвясціў Хрыста Валадаром Сусвету і зацвердзіў святкаванне ўрачыстасці на апошнюю нядзелю літургічнага года. Гэта былі асаблівыя часы, калі зямныя каралі страчвалі ўладу, а народы яе здабывалі. У гэтым становішчы Папа хацеў скіраваць сэрца чалавека да сапраўдных каштоўнасцей і сканцэнтраваць яго на высакародных ідэалах. Ён нагадваў, што толькі Хрыстос – Альфа і Амега, пачатак і канец усяго, падкрэсліваючы іншасць Валадарства Хрыста. Учора і сёння абвяшчаецца тая ж самая праўда аб тым, што Хрыстос – Валадар Любові. Ён хоча валадарыць у сэрцах людзей. Хоча, каб на свеце запанавалі Божы парадак, Божая праўда, справядлівасць і любоў.

**30 лістапада – І-ая нядзеля Адвэнту.**
Гэта час радаснага чакання Божага Нараджэння, таму дадзены літургічны перыяд па сваім характары адрозніваецца ад Вялікага Посту. Адвэнт доўжыцца амаль 4 тыдні і заканчваецца 24 снежня ў Вігілію Божага Нараджэння.

***Падрыхтавала Марына Ткач***

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**26 кастрычніка 2014 г. Мц 22, 34-40**
Запаведзі любові да Бога і бліжняга, вядомыя са Старога Запавету, Езус злучыў у адну новую запаведзь. У асобе Езуса Хрыста найпаўней праявілася любоў Айца да нас. Гэта Езус з'яўляецца настаўнікам, Які вучыць нас любові да Айца. Ён – дарога любові. Ён робіць нас здольнымі любіць усім сэрцам, усёй душою і ўсім разуменнем. Езус вучыць нас любіць саміх сябе сапраўднай Божай любоўю. Езус салідарны з кожным нашым братам. Калі любім малых, любім і Яго.

*– Якая галоўная запаведзь маёй веры?*
*– Пра што клапачуся і дбаю ў сваім жыцці?*
*– Ці найперш клапачуся пра любоў да Бога, да сябе і бліжняга?*
*– А можа, займаю свой розум, пачуцці чымсьці другасным?*
*– Можа, канцэнтрую сваю энергію на справах добрых, але не асноўных, і такім чынам занядбоўваю любоў?*
*– Якая мая любоў да Бога?*
*– У чым яна праяўляецца?*
*– Што зрабіць, каб яна была лепшай?*
*– Як гэта зрабіць?*
*– Як я люблю самога сябе?*
*– Ці гэта любоў згодна з воляй Божай?*
*– Ці веру ў любоў Бога да мяне?*
*– Як люблю бліжніх сваіх?*
*– Якія ў мяне ў гэтай справе цяжкасці?*
*– Што раблю, каб з імі справіцца?*
*– Дзе шукаю дапамогі?*

**2 лістапада 2014 г. Лк 23, 44-46; 50, 52-53; 24, 1-6а; Ян 11, 32-45 Ян 14, 1-6**
Езус прыняў на сябе смерць. Быў падобны да нас, бо памёр і быў пахаваны. Праз змёртвыхпаўстанне перамог і адчыніў нам дзверы да вечнасці. Ён спачуве нашай слабой чалавечай натуры. Ён – Пан жыцця і смерці. Мае ўладу ўваскрашаць памерлых. Ён – Пан вечнага вяселля. Толькі праз Яго мы можам увайсці да вечнага шчасця. Ён – дарога, і праўда, і жыццё. Ён хоча нашага збаўлення.

*– Ці памятаю пра смерць?*
*– Ці гатовы я да смерці?*
*– Ці знаходжуся я ў еднасці з Богам праз асвячальную ласку?*
*– Ці пазбягаю смяротнага грэху?*
*– Ці давяраю Богу сваё жыццё, сваё цярпенне і свой страх?*
*– А можа, я думаю, што буду вечна жыць на зямлі?*
*– Ці веру, што Езус з'яўляецца Панам маёй вечнасці?*
*– Ці іду праз жыццё дарогай яго навукі, каб дасягнуць поўні жыцця?*
*– Ці веру, што Бог хоча майго збаўлення?*
*– Ці супрацоўнічаю з Ім у гэтай справе?*
*– Ці супрацоўнічаю з Богам у справе збаўлення іншых людзей?*

**9 лістапада 2014 г. Мц 25, 1-13**
Чаканне жаніха – цэнтральная тэма гэтай прыпавесці. Адны чакаюць мудра, рыхтуючыся да магчымых цяжкасцяў. Іншыя, бесклапотныя, хочуць без праблем трапіць на вяселле. Езус Хрыстус, Які прыйдзе правесці нас на неба, знаходзіцца ў цэнтры нашага жыцця. Усё трэба падпарадкаваць чаканню Яго. Ён вядзе нас праз жыццё да вечнага вяселля. Хто спрабуе па-свойму або безадказна шукаць свайго шчасця, падвяргаецца небяспецы пачуць словы "не ведаю вас". Гэта Езус – гаспадар вяселля. Трэба чакаць, каб не прапусціць час сустрэчы.

*– Ці Езус знаходзіцца ў цэнтры майго жыцця?*
*– Ці Ён мой Пан?*
*– А можа, стаўлюся да сваёй сустрэчы з Богам, як да каляровага дадатку да свайго жыцця?*
*– Ці сур'ёзна і адказна стаўлюся да дару жыцця, якое атрымаў ад Бога?*
*– Што раблю, каб жыць паводле Божай волі?*
*– Якім чынам распыляю святло любові ў свеце, які чакае Бога?*
*– Ці змагаюся, каб трываць пры Езусе?*
*– Якія добрыя ўчынкі з'яўляюцца алеем да лямпы майго жыцця?*
*– Што магу зрабіць сёння, каб падрыхтавацца да сустрэчы з Панам?*
*– Якое Бог хоча дабро, каб я выканаў сёння?*

**16 лістапада 2014 г. Мц 25, 14-30**
Бог даверыў нам духоўнае дабро. Ён хоча, каб мы яго развівалі. Жыццё і іншыя дары, якія мы атрымалі ад Бога, дадзены нам, каб мы прыносілі плён. Яны нам дадзены, каб мы імі карысталіся згодна з Яго воляй і для Яго мэтаў. Калі жывём толькі для сябе, можам не атрымаць вечнага жыцця ў небе. Калі памнажаем Божы дар, Бог шчодра ўзнагародзіць нас.

*– Ці разумею, што жыццё – гэта Божы дар?*
*– Якія дары я атрымаў ад Бога?*
*– Ці ўдзячны я за іх і ці цаню іх?*
*– Ці памятаю пра вечнасць і адказнасць за дараваныя мне дары?*
*– Як люблю?*
*– Як прабачаю?*
*– Як дапамагаю малым, убогім, хворым?*
*– Што магу зрабіць, каб лепш распаўсюджваць Божыя дары?*
*– Ці пытаюся і ці шукаю дапамогі ў плённасці майго жыцця?*
*– Ці разумею, што я пакліканы да духоўнага развіцця?*
*– Ці размаўляю пра гэта з Богам?*
*– Ці шукаю Божай ласкі ў духоўным настаўніцтве, у споведзі?*
*– А можа, апраўдваюся боязню?*
*– Можа, не займаюся духоўным развіццём, таму што паддаюся страхам, якія мяне паралізуюць?*
*– Можа, абвінавачваю Бога, каб не займацца сваім навяртаннем?*
*– Можа, думаю, што я не такі ўжо вялікі грэшнік і гэтага дастаткова?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

# “Мы праваслаўныя. Ці можна нам павянчацца ў касцёле?”

*“Хвала Хрысту! Скажыце, калі ласка, ці можам мы з мужам – абое праваслаўныя – прыняць сакрамант шлюбу ў касцёле. Маем траіх дзетак, іх хрысцілі ў касцёле. Касцёл наведваем больш за 15 гадоў”.*
Алена

**На пытанне адказвае кс. Віктар Місевіч, член Калегіі Суддзяў Біскупскага суда Віцебскай дыяцэзіі:**

– Паважаная Алена! З Вашага пытання вынікае, што Вы з Вашым мужамужофактычназ'яўляецеся католікамі, таму што вызнаяце каталіцкую веру і падпарадкоўваецеся распараджэнням прадстаўнікоў касцельнай улады. Менавіта пра гэта кажа кан. 205 Кодэкса кананічнага права, які акрэслівае, калі чалавек цалкам належыць да Каталіцкага Касцёла: *“Упоўнай супольнасці Каталіцкага Касцёла застаюцца тут, на зямлі, тыя ахрышчаныя, якія ў яго бачным арганізме злучаюцца з Хрыстом сувязямі вызнавання веры, сакрамантаў і касцельнай улады”.*

Пакуль што Вы не можаце прыступаць да споведзі і Св. Камуніі, таму што нявенчаныя. Але з Вашага тэксту бачна, што такое жаданне ёсць. І гэта вельмі добра.

На сённяшні дзень не існуе нейкага акрэсленага абраду пераходу ў каталіцтва. Дастаткова толькі публічна вызнаць каталіцкую веру і прыняць поўнае вучэнне Касцёла, што Вы і робіце.

Аднак варта заўважыць, што параграф 1001 Статутаў Сіноду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Пінскай і Віцебскай дыяцэзій прадугледжвае існаванне ў парафіяльнай канцылярыі кнігі канвертытаў*, куды павінны быць запісаныя дадзеныя новага верніка і дзе мусіць быць яго подпіс. Гэтая юрыдычная працэдура неабходная, між іншым, каб пазней можна было дакументальна пацвердзіць сваю прыналежнасць да Каталіцкага Касцёла.

Тамуадзінае,штоВамтрэба, – гэта звярнуцца ў парафію, да якой Вы належыце па месцы пражывання і патлумачыць пробашчу вашу сітуацыю. Усе фармальнасці павінны вырашыцца ў парафіяльнай канцылярыі. І калі няма нейкіх іншых перашкодаў, Вы зможаце павянчацца ў Каталіцкім Касцёле.



*канвертыт – той, хто навяртаецца ў каталіцтва

# Ці грэх перайсці ў праваслаўе?

*“Хвала Христу! Скажите, как относится Католическая Церковь к переходу в православие при венчании в православной церкви, если муж – православный, а жена – католичка? Будет ли это грехом против веры? Заранее спасибо за ответ”.*
Татьяна

**На пытанне адказвае кс. Віктар Місевіч, член Калегіі Суддзяў Біскупскага суда Віцебскай дыяцэзіі:**

– Паважаная Тацццяна! Вера, якую мы атрымліваем ад сваіх бацькоў, з'яўляецца скарбам, каторы трэба берагчы. Гэты скарб нам неабходны для збаўлення. Таму Касцёл заахвочвае сваіх вернікаў развіваць веру і паглыбляць яе. У Вашым пытанні заключаны і адказ. Так, сапраўды, пераход у іншую канфесію будзе лічыцца грахом. Чалавек, які пакідае Каталіцкі Касцёл, нясе за гэта адказнасць не толькі маральную, але і юрыдычную.

Згодна з кан. 751 Кодэкса кананічнага права, *схізмай з'яўляецца адмова прызнання верхавенства Біскупа Рыма альбо адмова супольнага кантактавання з членамі Касцёла, якія прызнаюць гэтае верхавенства.* Агульнавядома, што праваслаўныя вернікі і духавенства не прызнаюць Рымскага Папу кіраўніком Паўсюднага Касцёла і яму не падпарадкоўваюцца. Таму чалавек, які пакідае Каталіцкі Касцёл і пераходзіць у праваслаўе ці іншую хрысціянскую канфесію, становіцца, з гледзішча кананічнага права, схізматыкам.

***Згодна з кан. 1364 §1, схізма з'яўляецца не толькі грахом, але і касцельным злачынствам, за якое прадугледжана адпаведнае пакаранне...***

Згодна з кан. 1364 §1, *схізма з'яўляецца не толькі грахом, але і касцельным злачынствам, за якое прадугледжана адпаведнае пакаранне: адступнік ад веры, ерэтык альбо схізматык падлягае экскамуніцы latae sententiae.* Што гэта абазначае?

Экскамуніка – гэта адлучэнне ад Касцёла. Словазлучэнне latae sententiae абазначае, што пакаранне за ўчыненае злачынства надыходзіць аўтаматычна без суда і вынясення прысуду.

Адлучанай ад Касцёла асобе, згодна з кан. 1331 §1, забараняецца:

1. любое паслугаванне пры адпраўленні Эўхарыстычнай Ахвяры і іншых абрадаў культу;

2. удзяляць або прымаць сакраманты;

3. займаць касцельныя пасады і выконваць любыя паслугі ў Касцёле.

Варта таксама працытаваць кан. 1184 §1, які пастанаўляе: *Калі перад смерцю пераліченыя ніжэй асобы не выкажуць якіх-небудзь прыкмет пакаяння, то касцельнага пахавання павінны быць пазбаўленыя вядомыя адступнікі, ерэтыкі і схізматыкі.*

Як бачна з працытаваных вышэй канонаў Кодэкса кананічнага права, Касцёл вельмі рупліва і раўніва ставіцца да пытання захавання веры.

Што можна было б параіць маладым людзям, якія хочуць стварыць сям'ю, але належаць да розных канфесій? Варта падумаць над тым, каб павянчацца ў Касцёле, застаючыся кожны пры сваім веравызнанні. У Каталіцкім Касцёле гэта магчыма. Дастаткова толькі звярнуцца ў сваю парафію і паведаміць пра гэта пробашчу. Усе фармальнасці з такім вянчаннем бярэ на сябе святар, які рыхтуе маладую пару да сакраманту сужэнства.

Падсумоўваючы, хацелася б дадаць, што сумеснае жыццё маладым людзям не варта пачынаць з канфліктаў і жыццёвых выбараў, якія пазней будуць непакоіць сумленне і прыўносіць разлад у адносіны. Варта ўступаць адно аднаму, узаемна шануючы веру і традыцыі кожнага.

# Ці можа праваслаўны наведваць Імшу?

*“Хвала Хрысту! Я з'яўляюся праваслаўным вернікам. Ці можна мне наведваць Касцёл падчас Святой Імшы?”*
Сяргей

**На пытанне адказвае а. Сяргей Трысцень OCD:**

– Хвала навекі! Паважаны Сяргей, Касцёл, як і кожны храм, з'яўляецца месцам культу і асаблівым месцам сустрэчы чалавека з Богам. Будучы праваслаўным вернікам, Вы можаце наведваць Касцёл падчас Святой Імшы. Пры гэтым трэба звярнуць увагу на адпаведныя і годныя паводзіны ў храме.

Можна атрымаць блаславенне святара, а таксама можна прыступіць да сакрамантаў, калі існуе фізічная або маральная немагчымасць прыняць сакраманты ў праваслаўнай царкве, калі Вы прызнаеце рэальную прысутнасць Хрыста ў дарах Хлеба і Віна і адпаведна да гэтага падрыхтаваны.

# Ватыканскі іерарх не рэкамендуе праваслаўны падыход да пытання разведзеных

**Сакратар Кангрэгацыі па справах Усходніх Касцёлаў адрэагаваў на меркаванне пра магчымасць перанясення ў “сужэнскае права” Каталіцкага Касцёла праваслаўнай практыкі адносна разведзеных, якія ўступілі ў новыя саюзы.**



Арцыбіскуп Кірыл Васіль перакананы, што гэта не адпавядае каталіцкай дактрыне. Гаворка ідзе пра карэнным чынам розныя інтэрпрэтацыі вучэння Хрыста аб непарыўнасці сужэнстваўКаталіцкімКасцёле і Праваслаўнай Царкве.

Словы “што Бог злучыў, чалавек няхай не разлучае”, для праваслаўныхмаюць характар маральнай запаведзі, якую грэшны чалавек можа парушыць або ігнараваць. Заходняя традыцыя, а разам з ёй усе Каталіцкія Цэрквы Усходу, бачаць у гэтых словах аб'ектыўную ісціну аб сужэнстве.

Арцыбіскуп Васіль, такім чынам, выказаў сваё меркаванне ў рамках перадсінадальных дэбатаў аб пошуку душпастырскіх рашэнняў для разведзеных католікаў, якія жывуць у несакраментальных саюзах.

У гэтым кантэксце некаторыя прапануюць прыняцце “праваслаўнай мадэлі”, што дазваляе развод і магчымасць заключэння наступнага саюзу. Ватыканскі іерарх глыбока прааналізаваў паходжанне такога рашэння. Ён паказаў, што праваслаўная практыка стала сведчаннем уплыву свецкага права, асабліва візантыйскага. У выніку чаго на працягу стагоддзяў праваслаўе не развівала вучэнне аб непарыўнасці сужэнства. Нават некаторыя праваслаўныя багасловы лічаць, што сёння гэтаму надаецца занадта мала ўвагі.

Сакратар ватыканскай дыкастэрыі не рэкамендуе выкарыстанне праваслаўных рашэнняў у гэтым пытанні. На яго думку, не можна дапамагчы сям'і і сужэнству праз памяншэнне патрабаванняў, “паніжэнне планкі” або старазапаветнае прыстасавальніцтва да цвёрдасці сэрца.

“Хрыстус прынёс нам новае, рэвалюцыйнае пасланне, якое ішло супраць плыні язычніцкага свету. Яго вучні абвяшчалі Добрую Навіну, без страху гаворачы аб мэтах вельмі высокіх і амаль недасягальных для культуры свайго часу”, – нагадаў арцыбіскуп Васіль і адзначыў, што мы таксама жывём у падобных, неаязычніцкія часы.

*radiovaticana.va*

## Як правільна па-беларуску: “Ражджаство” ці “Раство”, “Каляды”, “Дзень Божага Нараджэння”, “Нараджэнне Хрыстова”?

**Сёння ў беларускай мове паралельна ўжываецца некалькі слоў і спалучэнняў для абазначэння вялікага хрысціянскага свята, якое адзначаецца паводле каталіцкай традыцыі 25 снежня, а паводле праваслаўнай – 7 студзеня.**

**Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Усе прыведзеныя ў нашым загалоўку назвы з той ці іншай частотнасцю фіксуюцца і ў вусным маўленні, і на старонках перыядычнага друку. Пры гэтым слова “Ражджаство” ў розных выданнях мае яшчэ і варыянты напісання: *“Цуды на* ***Раждзество****...* ***Раждзество*** *– самае добрае і светлае свята... У ходзе дабрачыннай акцыі “Цуды на Калядах”, якая праводзіласяЎНавагоднія і* ***Раждзественскія*** *дні, сацыяльны прытулак амаль штодня прымаў гасцей...”* (Веснік Глыбоччыны”, 14.01.12, с.7); *“Менавіта ў гэтай краме ідзе збор сродкаў на будаўніцтва Спаса-Хрыста-****Раджэственскага*** *храма, які ўзводзіцца ў новым мікрараёне “Вулька”* (Звязда, 11.02.12, с.1).



Досыць абсурдна ў беларускай мове выглядаюць зафіксаваныя намі ў названых медыях напісанні. Падобную практыку наўрад ці можна лічыць лагічнай і ўвогуле дапушчальнай. Па-беларуску не варта ўжываць слова **“Ражджаство”**. Гэта стараславянізм, характэрны перадусім для рускай мовы. Яшчэ ў “Падручным расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку” Вацлава Ластоўскага (Коўна, 1924 г.) чытаем: “Рождество – нараджэньне; сьвята нараджэньня Хрыста: Каляды, Коляды” (с. 618). “Тлумачальны слоўнік беларускай мовы” не фіксуе назоўнік “Ражджаство” ўвогуле, але падае лексему “Каляды” са значэннем “ царкоўнае хрысціянскае свята нараджэння Хрыста, якое адзначаецца 25 снежня па ст.ст. і ў наступныя дні да Вадохрышча” (Мінск, 1978, т. 2, с. 595). Тут трэба заўважыць, што згаданы назоўнік мае ў беларускай мове шэраг вытворных: “калядаванне”, “калядаваць”, “калядоўшчык” і іншыя. Выразную характарыстыку паняцця “Каляды” дае “Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі”, заўважаючы, што “царква прымеркавала да Калядаў рэлігійнае свята нараджэння Хрыста (Раство)” (Мінск, 1985, т.2, с.639). Падобным жа чынам Каляды трактуе і “Беларуская энцыклапедыя”, дадаючы, што “з усталяваннем хрысціянства Каляды прымеркаваны да рэлігійных свят Раства Хрыстова і Вадохрышча” (Мінск, 1998, т.7, с. 497).

Як бачым, побач з назоўнікам “Каляды” ў аўтарытэтных крыніцах падаюцца і назвы “Раство”, “Раство Хрыстова”. Разам з гэтым апошнім часам істотна пашырыліся ва ўжыванні спалучэнні “Божае Нараджэнне”, “Дзень Божага Нараджэння” і “Народзіны Хрыста”. Знакаміты наш мовазнавец прафесар Павел Сцяцко раіць актыўней ужываць слова “Народзіны” як менш карыстанае ў штодзённым маўленні і таму здатнае да ўзвышанага арэолу: Народзіны Хрыста” (Павел Сцяцко. Культура мовы. – Мінск, 2002, с.404).

У Касцёле традыцыйна выкарыстоўваецца паняцце “Нараджэнне Хрыстова”. Тут дарэчы прыгадаць кантэкст з “Нашай Нівы”: *“Каталікі святкуюць* ***Нараджэнне Хрыстова****, праваслаўныя –* ***Ражджаство****”* (27.10.10, с.2).

Такім чынам, для абазначэння вялікага хрысціянскага свята незалежна ад канфесійнай прыналежнасці моўніка можна выкарыстоўваць паняцці “Каляды”, “Раство”, “Божае Нараджэнне”, “Дзень Божага Нараджэння”, “Нараджэнне Хрыстова”, “Народзіны Хрыста”. Таксама як і прыметнік “Калядны”. І не варта ўжываць стараславянізм “Ражджаство” (“Раждзество”) і прыметнік “Ражджэственскі” (“Раждзественскі”), якія проста непрымальныя з пункту гледжання культуры мовы. Іх, дарэчы, няма і ў акадэмічным “Слоўніку беларускай мовы” (Мінск, 2012).

# Як пазбегнуць духоўнага крызісу?

***“Хвала Хрысту! Апошнім часам да мяне прыходзяць не вельмі вясёлыя думкі наконт майго непастаянства ў веры. Калі мяне апаноўвалі страхі і паніка, выкліканыя стрэсам, я штодня малілася і чытала Біблію. Хадзіла кожны дзень у касцёл, знаходзячы там духоўную падтрымку і часовы супакой. Аднак пасля таго, як усе хваляванні праходзілі, я стала заўважаць, што ўжо не патрабую ўсяго гэтага. Я не заўсёды чытаю Біблію, не заўсёды хажу на служэнне, радзей бываю шчырай у малітве. Разумею, што гэта дрэнна. Не магу прымусіць сябе змяніцца і паглыбіць сваю веру. І вельмі баюся, што хутка можа здарыцца што-небудзь дрэннае. А гэта якраз будзе добрым урокам для мяне. Я зноў вярнуся да Бога, адчуваючы сябе бездапаможнай. Парайце, калі ласка, як пазбегнуць духоўнага крызісу?”***

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**



– Духоўны крызіс – гэта не тая рэч, якой можна пазбегнуць. І больш за тое: яго не трэба пазбягаць. Крызіс у жыцці чалавека – гэта заканамерная з’ява, якая ўзнікае рэгулярна на працягу ўсяго жыцця і змяняецца перыядамі спакою. Кожны крызіс – гэта чарговая прыступка ўверх. Прычына яго ўзнікнення ў тым, што чалавек сутыкаецца з абставінамі, да якіх ён не гатовы. Кожны крызіс трэба ўспрымаць як Божую ласку, як чарговы шанец да таго, каб стаць мудрэйшым, больш дасведчаным, *“аж пакуль не дойдзем (...) да чалавека дасканалага, да меры веку поўні Хрыстовай, каб не былі мы ўжо хісткімі дзецьмі, кіданымі ўсякім ветрам навукі сапсаваных людзей і ашуканстваў, якія дурманяць”* (Эф. 4, 13-14).

Ад нас не залежыць – быць крызісу ці не. Ён усё роўна прыйдзе рана ці позна. Але ад нас залежыць, чым крызіс закончыцца і колькі ён будзе працягвацца. Добрае завяршэнне крызісу – нашае ўдасканаленне і загартоўка. Аднак каб гэтага дасягнуць, трэба прыкласці намаганні, пра што казаў і Хрыстос: *“Валадарства Нябеснае дасягаецца сілаю, і тыя, што сілу ўжываюць, здабываюць яго”* (Мц. 11, 12). Калі мы прыкладзём намаганні, асабістыя стараннi, не забываючыся таксама на просьбы пра Божую дапамогу ў малітве, мы абавязкова выйдзем з крызісу больш моцнымі і мудрымі. І наперадзе нас будзе чакаць перыяд цвёрдага грунту пад нагамі аж да той пары, пакуль наша развіццё зноў не наблізіцца да чарговай вяршыні, на якую нам трэба будзе ўзняцца.

Разам з тым узыходжанне ўверх не ёсць безальтэрнатыўным шляхам. У кожным крызісе чалавек можа таксама апусціцца ўніз. І гэта будзе прасцейшы варыянт, бо не патрабуе ніякіх сілаў, увагі, стараннаў. Але і плод гэтага шляху горкі, *“бо так ёсць: хто скупа сее, той скупа і жне, а хто шчодра сее, той шчодра і жаць будзе”* (2 Кар. 9, 6).

Таму адзіная парада ў крызісе – прымаць яго з падзякай і працаваць над тым, каб, зразумеўшы прычыну і мэту, дасягнуць чарговай вяршыні. У Вашым выпадку, так выглядае, прычынай з’яўляецца не столькі аслабленне веры, колькі няправільнае яе разуменне. Вера – гэта не магія: я буду выконваць нейкія рытуалы і абрады, а Бог мне за гэта будзе рабіць дабро, і калі я перастану выконваць рытуалы, Бог мяне пакарае. Гэта не хрысціянства, гэта магія і язычніцтва. Таму працуйце над тым, *“каб Хрыстос абжыўся праз веру ў сэрцах вашых і каб вы, умацаваныя і спасіленыя любоўю, разам з усімі святымі маглі зразумець, якая ёсць шырыня і даўжыня, вышыня і глыбіня, а таксама пазнаць любоў Хрыстову, што перавышае ўсе веды, каб напоўніліся вы ўсёй поўняй Божаю”* (Эф. 3, 17-19).

# Як ставіцца Касцёл да штучнага апладнення?

***“Хвала Хрысту! Мы з мужам не можам мець дзяцей. Нам прапаноўваюць зрабіць штучнае апладненне. Я ведаю, што Касцёл супраць гэтага. Але вельмі хочацца сваіх дзяцей. Калі мы пойдзем на гэты крок, ці можна будзе жанчыне неяк адкупіць свой грэх? Дзякуй за адказ”.***

*Таццяна*

**На пытанне адказвае а. Сяргей Трысцень OCD:**

– Паважаная Таццяна! Сапраўды, многія дакументы Каталіцкага Касцёла, сярод якіх трэба вылучыць інструкцыі Donum vitae і Dignitas personae Кангрэгацыі веравучэння кажуць пра недапушчальнасць штучнага апладнення ў вырашэнні праблемаў бясплоднасці, з якімі сустракаюцца многія сем'і. І мы добра ведаем правіла, якое кажа, што мэта не можа апраўдаць сродкі. У сакраманце пакаяння і паяднання Бог прабачае кожны грэх, нават вельмі цяжкі, калі чалавек пакаіцца і мае шчыры жаль за яго. Але споведзь нам дадзена не для таго, каб мы мелі магчымасць грашыць і потым каяцца, а для таго, каб падняцца з грэху і ў будучым да яго не вяртацца. Адкупіць грэх можна, але ці можна вярнуць тых дзетак, якія гінуць у працэсе маніпуляцый, звязаных са штучным апладненнем? Ці гатовы Вы з мужам для шчасця Вашай сям'і і бацькоўства забіць іншых дзетак, якія не прайшлі адбор? Ёсць шмат спосабаў вырашэння праблемы бясплоднасці, якія дазваляе і рэкамендуе Касцёл. Напрыклад, напратэхналогія – распаўсюджаны ў Еўропе метад лячэння і прафілактыкі бясплоднасці, які заснаваны на выяўленні прычынаў у арганізме, што перашкаджаюць дзетанараджэнню. Згадаем яшчэ пра ўсынаўленне, а таксама больш скрупулёзнае пазнанне фізіялогіі і фіртыльнасці сужэнскай пары.



# Што пачытаць?

## Исцеление к новой жизни

**о. Джеймс Манджакал**
**Издательство: Гродненская епархия Римско-Католической Церкви в Республике Беларусь, 2013 год.**

**Цена: 59000**

В книге автор помогает читателю пережить в личной встрече с Иисусом глубокое внутреннее исцеление, ведущее к радикальному обновлению жизни в Господе. Автор на примере подлинных жизненных историй объясняет, откуда могут войти в нашу жизнь те или иные проблемы, болезни, как приготовиться к молитве об исцелении. Даёт советы относительно того, как сохранить и развивать дар новой жизни во Христе.




## Будь мужчиной!

### Как стать мужчиной, каким задумал тебя Бог

**о. Ларри Ричардс**
**Издательство: Гродненская епархия Римско-Католической Церкви в Республике Беларусь, 2014 год.**

**Цена: 59000**

В книге автор рассказывает о тех трудностях, которые необходимо преодолевать, чтобы научиться быть настоящим мужчиной. Говорит о том, как сосредоточиться на правильной цели, о том, как открыться на Божью любовь, о необходимости признавать свои ошибки и позволить Святому Духу себя вести. Он пытается показать, как быть мужчиной подлинной любви и мудрости, как правильно воспринимать и ценить различия между мужчиной и женщиной, как стремиться к святости и как изменить мир вокруг себя.




## Чувствам недоступен, для очей незрим.

### Свидетельства присутствия

**Издательство: Гродненская епархия Римско-Католической Церкви в Республике Беларусь, 2012 год.**

**Цена:29000**

Первая часть книги рассказывает о мучениках Евхаристии, которые на протяжении всей истории Церкви своей кровью свидетельствовали о реальном Присутствии Христа в этом таинстве. Вторая часть повествует о людях, чья вера в евхаристическое Присутствие сопровождалась сверхъестественными явлениями. В третьей части описано несколько чудес, в которых Сам Господь сделал Своё Присутствие доступным для наших человеческих чувств.




## Новый Завет




**Издательство: Гродненская епархия Римско-Католической Церкви в Республике Беларусь, 2014 год.**

**Цена: 59000**

Новый Завет издан в Синодальном переводе с пояснениями и комментариями, взятыми из Библии, вышедшей в брюссельском издательстве «Жизнь с Богом» в 1989г.

## Як заказаць кнігі?

Кнігі з рубрыкі "Газетная кнігарня" можна заказаць, патэлефанаваўшы ў рэдакцыю па нумары **+375297365307**. **Неабходна будзе паведаміць адрас свайго пражывання і колькасць кніг. Можна таксама даслаць ліст у рэдакцыю, дзе трэба напісаць свой адрас, нумар тэлефона, а таксама найменне і колькасць кніг.**

Рубрыка "Газетная кнігарня" - гэта сумесны праект газеты "Каталіцкі Веснік" і парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім.

Выбраныя кнігі будуць дасланыя поштай накладзеным плацяжом. **Пакупніку трэба будзе заплаціць за кнігу і паштовыя выдаткі па перасылцы.**

Дарагія сябры, заказваючы кнігі праз газету "Каталіцкі Веснік", вы дапамагаеце развіццю каталіцкай прэсы ў Беларусі!

**Увага! Спяшайцеся набыць кнігі праз рубрыку "Газетная кнігарня". Іх колькасць абмежаваная!**

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# Што пачытаць?

## Ты – образ Божий

**Отец Джон Башобора**
**Издательство: Гродненская епархия Римско-Католической Церкви в Республике Беларусь, 2014 год.**

**Цена: 69000**




Книга рассказывает читателю о том, что он является Божьим ребенком всегда и везде, о том, что мы всегда можем и должны рассчитывать на Бога и Его любовь. Книга «Ты — образ Божий» – это запись реколлекций, прошедших в Польше в 2011 году, которые провел о. Джон Башобора.

Отец Джон – известный харизматический проповедник из Уганды. Родился в 1946 году, в 1972-ом стал католическим священником. Защитил докторскую диссертацию в области мистического богословия в Папском Григорианском университете в Риме. Является основателем двух начальных и двух средних школ у себя на родине. Отец Джон также основал два детских дома, в которых обрели приют уже более пяти тысяч сирот.

## Дзённік святой Фаўстыны

**У выдавецтве "Pro Christo" пабачыў свет "Дзённік" святой сястры Фаўстыны Кавальскай на беларускай мове ў перакладзе Крыстыны Лялько.**

**Цана: 149000**




Выхаду гэтае кнігі даўно чакалі беларускія вернікі. І не дзіўна, бо яна з'яўляецца бестселерам сусветнай містычнай літаратуры. Гэта адначасова захапляльная гісторыя адносінаў душы з Богам і падручнік цярпення, пакоры ды малітвы, шчодрае аб'яўленне Божай Міласэрнасці і кніга-гімн на яе хвалу.

"Дзённік", які складаецца з шасці сшыткаў і дадатку "Мая падрыхтоўка да святой Камуніі", сястра Фаўстына пісала на працягу апошніх чатырох гадоў жыцця (1934–1938) па наказе спаведнікаў і выразным загадзе Езуса Хрыста. У "Дзённіку" апісаныя містычныя сустрэчы святой з Панам Богам і перададзена пасланне Божай Міласэрнасці, якая так патрэбная ўсяму сучаснаму свету і кожнаму чалавеку паасобку. Таму гэта адна з кніг, што назаўсёды перамяняюць душу чытача і да якіх можна шматразова звяртацца на працягу ўсяго жыцця.

## Бог дал мне второй шанс

**Издательство: Гродненская епархия Римско-Католической Церкви в Республике Беларусь, 2013 год.**

**Цена: 29000**

Книга "Бог дал мне второй шанс" повествует о некотором факте, событии, которое произошло в 1995 году и было подробно документировано. Сеньора Глория Поло, колумбийка, врач-стоматолог, «умерла» в результате несчастного случая, иначе говоря, была так серьёзно ранена, что несколько дней находилась в состоянии клинической смерти, и её жизнь поддерживалась только медицинскими аппаратами. Если бы их выключили, она бы тотчас умерла. Занимавшиеся ею врачи уже были уверены, что потеряли пациента, и хотели отключить аппаратуру. И только её сестра – тоже врач – настаивала на том, чтобы оборудование продолжало работать.

Во время клинической смерти Глория Поло оказалась по ту сторону нашей действительности, "на том свете". Но потом ей удалось вернуться к жизни, чтобы дать свидетельство тем, кто не способен поверить. Она принесла нам оттуда важную весть. То, что вы прочитаете, изложено непосредственно из её уст.

Глория Поло во время своего мистического переживания, которое она подробно описывает, получила возможность заглянуть в свою Книгу Жизни. Этот опыт так её потряс, что по повелению Господа она стала «гласом вопиющего в пустыне», «в пустыне веры» нашей сегодняшней действительности. Более того, суть этого послания – ни что иное, как безмерная любовь и огромное Милосердие Бога к нам, людям. Таким образом, сеньора Глория говорит на ту же тему, что и Папа Бенедикт XVI в своей энциклике DEUS CARITAS EST («Бог есть любовь»): Бог постоянно дает нам доказательства, мы же, несмотря на это, отрицаем Его существование.





## Ко мне пришли свидетели Иеговы

**о. Анри Мартен**
**Издательство Отцов-францисканцев, Непоколянов 2011 год.**

**Цена: 39000**




Отец Анри Мартен – греко-католический священник. Родился в Тбилиси, служил в Грузии, России и Беларуси. Наряду с пастырским служением занимается литературной деятельностью, а также ведет сайт salvemus.com.

В публикуемой работе автор на основании библейских материалов и личных свидетельств разоблачает заблуждения и злоупотребления организации "Свидетелей Иеговы".

# У Глыбокім прайшло спатканне “Мы разам”



**Сустрэча праводзілася для асоб з псіхічнымі і фізічнымі захворваннямі, іх бацькоў і апекуноў.**

■ **Зміцер Лупач**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Мерапрыемства было арганізавана Глыбоцкай суполкай каталіцкага таварыства “Caritas” пры парафіі Святой Тройцы пры падтрымцы мясцовых уладаў.

У сустрэчы прыняло ўдзел больш за дзве сотні асобаў. Гэта не толькі прадстаўнікі каталіцкага касцёла, але і вернікі іншых хрысціянскіх канфесій. Мэтамі мерапрыемства было паспрыяць інтэграцыі асобаў з абмежаванымі магчымасцямі ў грамадства, заахвоціць людзей да захавання хрысціянскіх каштоўнасцяў праз учынкі міласэрнасці, зрабіць грамадства больш адкрытым да праблем інвалідаў.

Спачатку ўдзельнікі спаткання сабраліся ў касцёле Святой Тройцы, дзе да іх звярнуўся пробашч гэтага касцёла ксёндз Мечыслаў Янчышын. Ён прывітаў гасцей, якія прыбылі на мерапрыемства не толькі з Глыбокага, але і з Браслава, Верхнядзвінска, Мёраў, Паставаў, Лепеля, Ушачаў, Баранавічаў, іншых гарадоў нашай краіны, і заклікаў прысутных падзяліцца сваім добрым сэрцам.

Удзельнікаў мерапрыемства прывіталі таксама кіраўнік Глыбоцкага раённага Савета дэпутатаў Галіна Унуковіч і дырэктар мясцовага аддзялення “Caritas” Іна Вайцяховіч.

Пасля кароткай малітвы і блаславення ўдзельнікі імпрэзы прайшлі ўрачыстым шэсцем ад касцёла да гарадскога Дома культуры.

У Доме культуры гасцей спачатку пачаставалі з дарогі, а потым распачалася ўласна забаўляльная праграма. Удзельнікаў чакалі разнастайныя гульні, конкурсы, прадстаўленні.

Пакуль госці весела бавілі час, на другім паверсе Дома культуры быў арганізаваны круглы стол, у якім прынялі ўдзел бацькі, апекуны асобаў з абмежаванымі магчымасцямі, святары каталіцкай і праваслаўнай канфесій, прадстаўнікі ўлады, іншыя зацікаўленыя бакі. Удзельнікі круглага стала абмеркавалі пытанні інтэграцыі людзей з абмежаванымі магчымасцямі ў грамадства, эфектыўнай дапамогі ім, а таксама праблемы арганізацыі працы з замежнымі партнёрскімі дабрачыннымі структурамі.

Пасля абеду для ўдзельнікаў мерапрыемства была падрыхтавана адмысловая канцэртная праграма. На пачатку імпрэзы з прывітальнымі словамі да прысутных звярнуліся кіраўнік Глыбоцкага раёна Алег Морхат, біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч, дырэктар “Caritas” гэтай дыяцэзіі ксёндз Андрэй Аніскевіч і прадстаўнік Праваслаўнай Царквы благачынны Глыбоцкай акругі айцец Міхаіл Ізаітка. Усе яны адзначылі важную ролю хрысціянскіх каштоўнасцяў: міласэрнасці, чалавечнасці, спагады, дабрыні, узаемаразумення ў дачыненнях паміж асобамі з абмежаванымі магчымасцямі і нашым грамадствам.

Варта адзначыць, што сярод артыстаў, задзейнічаных у канцэртнай праграме, былі і асобы з абмежаванымі магчымасцямі, выступленні якіх вельмі кранулі гледачоў. Гэта дазволіла людзям адчуць сябе паўнапраўнымі членамі нашага грамадства, зразумець, што мы патрэбныя адно аднаму.

Завяршылася ж канцэртная праграма шоу з мыльнымі бурбалкамі, якое вельмі спадабалася ўсім прысутным.



Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі
**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»
**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дэяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ
**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога
Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4 Заказ 7457
Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах Тыраж 3300 экз. Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3 Афсетны друк Падпісана ў друк 21.10.2014 г. у 22.31
**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: mail@catholicnews.by
http://catholicnews.by
ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі срокам масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ